№ 31 (916) 19 жніўня 2015

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Як Лукашэнка бульбу капаў

Старонка 2.



## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

# За графіці «Беларусь мае быць беларускай» пагражае шэсць гадоў турмы




Трое хлопцаў арыштаваныя. Іх падазраюць у «прапагандзе гвалту ў грамадстве і грэбаванні агульнапрынятымі правіламі паводзінаў». **Старонка 3.**

# Курс даляра ў абменніках дасягнуў 16300

Беларускі рубель працягвае таннець імклівымі тэмпамі. Даляр перасягнуў псіхалагічную мяжу 16 000 рублёў, але на гэтым не спыніўся. Гістарычныя максімумы абнаўляюцца штодня. Афіцыйны курс у аўторак складаў 16 259 рублёў, але даляр прадаецца ў абменніках аж да 16450 рублёў. Фінансавыя эксперты кажуць, што чакаць паляпшэння не выпадае.

Курс даляра ўспрымаецца як асноўны паказчык сітуацыі ў эканоміцы, дзе нічога пазітыўнага за апошні час не здарылася: у першым паўгоддзі ВУП упаў на 3,3%, золатавалютныя рэзервы скараціліся да $4,7 мільярда, а большасць заводаў працуе няпоўны тыдзень. Што вырасла, дык гэта цэны. Ад пачатку года інфляцыя склала 7,5% і, паводле плана Нацбанка, працягне расці такімі ж тэмпамі.

Напярэдадзе прэзідэнцкія выбары, і ў грамадстве ўсё больш адчувальна паўстае пытанне: «Што будзе далей?».

«Негатыўныя чаканні беларусаў цалкам апраўданыя, бо падзенне цэнаў на нафту толькі ўзмацніла той крызіс, які перажывала Беларусь, — мяркуе былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. — Як вынік, мы бачым «цягучую» дэвальвацыю, калі штодзень даляр расце на 100—200 рублёў. А падтрымаць курс валютнымі інтэрвенцыямі, як гэта робіцца ў Расіі, мы не можам праз сціплыя золатавалютныя рэзервы. Таму мой прагноз наступны: да канца года абменны курс даляра складзе 17 тысяч рублёў.

**Працяг на старонцы 6.**

## Як я працу праз агенцтва шукаў

Увага ўсім, хто не хоча патрапіць на гэты лахатрон! **Старонка 10.**

## На выбарах будзе два кандыдаты ад казакоў?

Кіраўнік штаба Віктара Цярэшчанкі называе сябе «генерал-маёрам расійскіх казацкіх войскаў». **Старонка 4.**

## Беражкова пасадзілі

Цудоўны журналіст і наваспечаны хакейны функцыянер змешчаны ў ізалятар на Валадарскага. **Старонка 7.**

# Як Лукашэнка бульбу капаў

16 жніўня дзяржаўныя тэлеканалы і сайты распаўсюдзілі відэа, як кіраўнік дзяржавы ў рэзідэнцыі «Дразды» збірае ўраджай бульбы.



### З кім збіралі?

Нядзеля — дзень святы. Але так выходзіць, што часта толькі ў гэты дзень уся сям'я здольная сабрацца разам у вёсцы, каб выканаць штогадовы рытуал капання бульбы. Зрэшты, калі меркаваць па відэа, то з сям'і Лукашэнкі на сельгаспрацах прысутнічаў толькі малодшы сын Мікалай. Старэйшых сыноў з сем'ямі на полі не было.

Затое быў мультымільянер Юрый Чыж, які спраўна цягаў мяхі на трактар, хакейны трэнер (і таксама мільянер) Міхаіл Захараў, віцэ-прэзідэнт НАКа Сяргей Цыцэрын, памочнік Лукашэнкі па Мінскай вобласці Мікалай Корбут. Гэта тыя самыя людзі, якія нядаўна ўдзельнічалі ў касьбе з французскім акцёрам Жэрарам Дэпард'ё.

Таксама былі заўважаныя прэс-сакратарка кіраўніка краіны Наталля Эйсмант і гімнастка Ксенія Санковіч.

### Чаму так рана?

Традыцыйна беларусы пачынаюць выбіраюць бульбу толькі пасля Яблычнага Спасу 19 жніўня. Бульбе трэба вылежацца ў зямлі, інакш яна захоўвацца зімой не будзе.

### У чым быў адзеты Лукашэнка?

Найперш увагу многіх прыцягнуў дзіўны галаўны ўбор Лукашэнкі, у якім кіраўнік краіны з'яўляецца ўжо не ўпершыню. Гэта ці то берэтка, ці то каўпак белага колеру, які закрывае вушы і лоб. Таксама на Лукашэнку, заўважылі ў інтэрнэце, былі шорты амерыканскай фірмы.

### У што абуты?

Што тычыцца абутку, то і на нагах у Лукашэнкі былі не «Марка» і не «Нёман», а модныя амерыканскія «Кроксы».

### У што абутыя іншыя?

Іван Шыла ў сваім фэйсбуку заўважыў, што некаторыя з атачэння Лукашэнкі капалі бульбу ў даражэзных красоўках «Конверс». Хоць яны белыя і іх цяжка адмыць пасля такой працы.

### Чаму капалі ў адно вядро?

Бульбу пры зборы ніхто не сарціраваў. У адно вядро сыпалі і вялікую, і дробную.Адсарціруюць іншыя. Не прэзідэнцкая гэта справа — бульбу сарціраваць. Дакладней, не кандыдацкая.

**Зміцер Панкавец**

## Сцісла

**Закрываюць 45 малакамплектных школ**

Пра гэта Лукашэнку далажыў міністр адукацыі Жураўкоў. Ліквідуюць тыя школы, у якіх вучыцца менш за 25 чалавек.

**Расіяніна на ўпусцілі ў Літву праз савецкую сімволіку**

Як паведамляе служба аховы дзяржаўнай мяжы Літвы, грамадзяніну Расіі было адмоўлена ва ўездзе, бо памежнікі ўбачылі на ягонай машыне налепку з пяціканцовай чырвонай зоркай, сярпом і молатам. Публічная дэманстрацыя камуністычнай сімволікі ў Літве забаронена.

**Экіпаж airBaltic спрабаваў вылецець з Нарвегіі п'яным**

Скандал у Скандынавіі — нарвежскіх лётчыкаў злавілі п'янымі незадоўга да вылету. Пра дзіўныя паводзіны пілотаў паведаміў тэлефонным званком ананім. Высветлілася, што некаторыя члены экіпажу распілі віскі і піва перад рэйсам. Адзін з пілотаў ужо асуджаны на паўгода турмы, іншага яшчэ чакае суд. Усіх іх кампанія звальняе з работы.

**Алім Селімаў выказаўся ў падтрымку беларускай мовы**

«Мне хацелася б, каб людзі тут размаўлялі на беларускай. Я і сам размаўляў бы! Мне яна падабаецца, у ёй ёсць разыначка», — сказаў генеральны дырэктар мінскага «Дынама» Алім Селімаў у інтрэв'ю «Прессболу».

**АГ**

# Макей правёў ва Украіне рэкордна доўга

Дзяржаўныя СМІ пра гэта амаль маўчалі.

Надзвычай працяглы па дыпламатычных мерках візіт Уладзіміра Макея прайшоў з 12 да 16 жніўня. У інтэрв'ю АНТ Макей патлумачыў паездку «жаданнем вывучыць магчымасці пашырэння паставак нашых грузаў праз паўднёвыя порты Украіны».

Астатнія паведамленні пра мэты камандзіроўкі зводзіліся да стандартнага «абмеркавання двухбаковых зносін».

Падчас візіту ва Украіну Уладзімір Макей сустрэўся с Пятром Парашэнкам, якога запэўніў, што ніякай пагрозы з боку Беларусі Украіне чакаць не варта. Кіраўнік беларускага МЗС цвёрда адзначыў, што для Беларусі Луганская і Данецкая вобласці «былі, ёсць і будуць тэрыторыяй Украіны».

Украінскі калега Макея Павел Клімкін напісаў у сваім твітары, што спачатку размаўляў з госцем з Беларусі па-ўкраінску, на што той адказваў па-беларуску. Потым, праўда, міністрам давялося перайсці на іншую мову, бо да перамоваў далучыўся іх калега з Літвы. Міністры гаварылі пра перспектывы трохбаковага супрацоўніцтва ў розных галінах, у тым ліку «Усходняе партнёрства».

**АГ**



От так

# У Расіі знішчалі качанят і гусей

На тыдні свет узрушыла відэа з расійскай глыбінкі. У адным сельпо ў Татарстане чацвёра афіцэраў у прысутнасці трох панятых канфіскавалі тры замарожаныя гусі вытворчасці Венгрыі.

Афіцэры пад камеру вынеслі тушкі на палігон, дзе тыя раздушыў бульдозер.

На наступны дзень з'явілася іншае відэа — работнікі мытні ў Белгарадскай вобласці вывезлі 50 кантрабандных качанят з Украіны. У гаспадара птушак не знайшося суправаджальных папер, таму качанят забілі і спалілі.

От ужо цэлы свет наабмяркоўваўся. За некалькі дзён карыстальнікі сасцетак нарабілі сотні іранічных «фотажабаў», якія высмейваюць палітыку кіраўніцтва Расіі.

Нагадаем, што ад 6 жніўня Расія прыняла закон, паводле якога санкцыйная прадукцыя павінна знішчацца. У расійскіх крамах і на мяжы патрулі Рассельгаснагляда вынюхваюць італьянскі пармезан і іспанскія нектарыны. Такім чынам Масква дэманструе свету сваю харчовую незалежнасць.

Дарэчы, маскоўская карэспандэнтка іспанскай газеты «Паіс», што наведала Рэдакцыю «Нашай Нівы» на мінулым тыдні, прызналася, што павязе з Мінска ў Маскву не толькі артыкул пра будучыя выбары, але таксама літоўскі сыр і іспанскі кумпяк «хамон».

**Арцём Гарбацэвіч**

## Апытанне на nn.by

**Як вы думаеце, знішчаць ці выкідаць прадукты — грэх?**

| | | |
|---|---|---|
| Так, грэх | 847 | 74% |
| Не, не грэх | 22 | 2% |
| Мае дзяды думалі, што грэх, але гэта былі перажыткі-забабоны | 38 | 3% |
| Гэта эканоміка | 49 | 4% |
| Ваяваць — большы грэх | 189 | 17% |

Усяго прагаласавала 1145 чалавек.

## Самае чытанае на nn.by за 12—18 жніўня

1 «Дэбілы, б***» — расійскі міністр Лаўроў вылаяўся на сустрэчы з калегам з Саудаўскай Аравіі

2 Аляксандр Лукашэнка, Коля і прэзідэнцкая світа збіралі ў Драздах бульбу

3 Кацярына Кібальчыч пра «Барысаў-арэну»: Пахне гноем, а гледачы — гопнікі

4 Разгаданая тайна галаўнога ўбору Лукашэнкі?

5 Мікалай Лукашэнка правёў экскурсію па рэзідэнцыі бацькі для прэм'ера Пакістана

6 Падазраваны па крымінальнай справе за беларускія графіці: «Білі па рэбрах, твары, нагах. Хацелі, каб я здаў хлопцаў»

7 За графіці «Беларусь мае быць беларускай» затрыманыя тры чалавекі, ім можа пагражаць да 6 гадоў зняволення

8 Алгарытм: як беларускія чыноўнікі становяцца мільянерамі

9 Пяць фактаў пра арыштаванага Уладзіміра Беражкова

10 На мяжы Расіі забілі і спалілі 50 качанят — санкцыйны тавар

# За графіці «Беларусь мае быць беларускай» пагражае шэсць гадоў турмы

Трое хлопцаў арыштаваныя. Іх падазраюць у «прапагандзе гвалту ў грамадстве і грэбаванні агульнапрынятымі правіламі паводзінаў».

11 жніўня супрацоўнікамі міліцыі былі затрыманыя пяцёра хлопцаў. Затрымлівалі брутальна, са зброяй, з электрашокерамі, у масках, нібыта нейкіх наркабаронаў. Адзін з хлопцаў — Вячаслаў Касінераў — праз тыдзень пасля тых падзей усё яшчэ знаходзіцца ў шпіталі пад канвоем. Яму так моцна разбілі сківіцу, што ён усё яшчэ не можа размаўляць. Асабліва небяспечныя злачынцы.

Двое затрыманых знаходзяцца ў ізалятары на Валадарцы — Максім Пякарскі і Вадзім Жаромскі. Яшчэ двух выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе.

Пакуль пра гэтых хлопцаў мала вядома, яны не былі сябрамі палітычных партый і моладзевых арганізацый, але пры гэтым размаўлялі па-беларуску, шанавалі гісторыю.

Гэта не нейкія асацыяльныя элементы, затрыманыя хадзілі на працу, сплачвалі падаткі.

Хлопцаў абвінавачваюць у нанясенні двух графіці ў Фрунзенскім раёне Мінска, а таксама закідванні фарбай міліцэйскага білборда. Здавалася б, што такога крымінальнага ў малюнку: перакрэсленыя савецкі і фашысцкі сімвал і надпіс «Беларусь мусіць быць беларускай». Дарэчы, не так даўно прарасійскія неафашысты тое графіці сапсавалі.

На другім — надпіс «Рэвалюцыя свядомасці». Праўда, следчыя ўгледзелі на той карцінцы чалавека з кактэйлем Молатава ў руцэ.

У афіцыйнай заяве Следчага камітэта гаворыцца: «Да матэрыялаў крымінальнай справы далучаныя канфіскаваныя ў падазраваных: літаратура экстрэмісцкай накіраванасці, маскі, шаўроны з выявай «Калаўрат», бутэлькі з вадкасцю для запальвання, балаклава, прадмет, пнеўматычны пісталет і многае іншае. Зараз канфіскаваныя рэчавыя доказы аглядаюцца і вывучаюцца спецыялістамі».




Праваабаронцы адразу звярнулі ўвагу, што для захоўвання дома пнеўматычнага пісталета ніякага дазволу не патрэбна.

Што тычыцца нібыта «экстрэмісцкай літаратуры», то ў якасці прыкладу афіцыйная прадстаўніца Следчага камітэта Юлія Ганчарова на сваёй старонцы ў фэйсбуку прадэманстравала асобнік кнігі «Анархія працуе. Прыклады з гісторыі Расіі». Аднак гэтае выданне не ўваходзіць у спіс літаратуры, якая прызнаная экстрэмісцкай у Беларусі. У Расіі, дарэчы, гэтае выданне таксама дазволенае.

Ствараецца ўражанне, што ўсе «рэчавыя доказы» былі прадстаўлены для карцінкі, нібыта затрымалі сапраўды злосных хуліганаў.

Паводле прызнанняў сілавікоў, затрыманых яны вялі цягам паўгода. На допытах яны казыралі зусім непублічнымі старонкамі біяграфій затрыманых. Звяртае ўвагу, што крымінальную справу пачаў не КДБ, а Міністэрства ўнутраных справаў.

Былы міліцыянт, стваральнік сайта *Belarus Security Blog* Андрэй Паратнікаў мяркуе: «Сістэма так пабудаваная, што без ворагаў яна не можа. Раней была апазіцыя — цяпер яе фактычна вынішчылі. Таму на ролю ворагаў прызначылі футбольных фанаў, таксама розныя субкультуры. А гэты выпадак тым больш зручны: тут адразу і субкультурнікі, якія шыфруюцца, і гісторыя з закіданым білбордам».

21 жніўня скончыцца 10 дзён утрымання хлопцаў пад вартай. Да гэтага часу сілавікі мусяць ці выставіць затрыманым абвінавачанні, ці адпусціць. На жаль, пакуль пакуль больш імаверным выглядае якраз першы варыянт.

Характэрна, што праваабаронцы адрэагавалі імгненна. Вясноўцы выступілі з заявай, што лічаць гэтую справу палітычна матываванай.

«Напісанне графіці з надпісам «Беларусь мае быць беларускай» з выявай беларускага арнаменту, перакрэсленых свастыкі і сярпа з молатам, а таксама з надпісам «Рэвалюцыя свядомасці, яна ўжо ідзе...» з выявай чалавека з бутэлькай у руцэ, не маюць на мэце парушэння грамадскага парадку і не выказваюць яўнай непавагі да грамадства, не ўтрымліваюць прапаганду нацыянальнай, рэлігійнай, расавай, сацыяльнай ці іншай варожасці. Характар і змест створаных надпісаў сведчыць аб адсутнасці хуліганскіх матываў у дзеяннях асобаў, якія іх учынілі, і, адпаведна, аб адсутнасці складу злачынства, прадугледжанага ч. 2. арт. 339 КК Рэспублікі Беларусь», — гаворыцца ў заяве вясноўцаў.

Такім чынам, за два месяцы да выбараў краіна атрымала новых палітвязняў.

**Зміцер Панкавец**

# «Білі па рэбрах, твары, нагах. Хацелі, каб я здаў хлопцаў»

Падазраваны па крымінальнай справе за беларускія графіці расказаў падрабязнасці затрымання.

Яраславу Ульяненкаву 32 гады, ён мінчук. Зарэгістраваны як індывідуальны прадпрымальнік, працуе ў харчовай галіне. Вучыцца ў Інстытуце парламентарызму і прадпрымальніцтва. Цікавіцца гісторыяй, цудоўна размаўляе па-беларуску. Хутка ў яго з сяброўкай народзіцца дзіця.

Цяпер Яраслаў падазраваны па крымінальнай справе за нанясенне патрыятычных графіці, якія «груба парушаюць грамадскі парадак і выражаюць відавочную непавагу да грамадства».

11 жніўня ў 18:50 у кватэру Яраслава на Каменнай Горцы пачалі грукацца невядомыя.

«Крычалі, што міліцыя, адчыняйце. Я быў у ванным пакоі, хацеў папярэдзіць родных, але не паспеў, бо дзверы ўжо выламалі. Прычым выбілі так прафесійна, што дзверы ўсё яшчэ працуюць.

Гэта былі людзі ў масках, з пісталетамі. Іх было чалавек 5—6. Скруцілі мяне, пачалі крычаць: «Тварам у падлогу, рукі за спіну». Адзелі кайданкі на рукі, пасля чаго пачалі біць.

Білі ў рэбры, у твар, па нагах, па вушах. Калі я ляжаў, сталі вучыць: «Ты што, самы разумны? Чаму не адмыкаеш, калі табе званілі? Хочаш у дрэннага хлопчыка пагуляць, а мы любім дрэнных хлопчыкаў». Яшчэ некалькі разоў далі аплявуху. Гэта працягвалася хвілін дзесяць.

Я не разумеў, што гэта такое, з чым звязана. Прасіў патлумачыць. «Ты что, не понимаешь, думаешь, все это просто так», — крычалі яны. Ніякага адэкватнага тлумачэння мне ніхто не даў. Ёсць інфа, што аднаго з хлопцаў затрымлівалі праз акно, залячалі з даху па тросіках.

Паступова «маскі-шоу» выйшлі, зайшлі следчыя. Калі мяне збівалі, то панятых не было, яны ўжо з'явіліся пазней. Панятымі былі суседзі.

Я быў дома адзін, мая цяжарная дзяўчына цяпер у Магілёве, яна выпраўшала нараджаць там. Я ж тут працую і езджу да яе.

Пачаўсяператрус у хаце. Панятыя заўжды былі ў пакоі са мной, хаця міліцыянты хадзілі па кватэры. У выніку патапталіся па фотаздымках, кнігах, бялізне, на якой я сплю. Поўная знявага да асобы.

Я займаюся дызайнам, дык пазабіралі старую нявыкарыстаную фарбу. Забралі пяць пар абутку, ноўтбук, сістэмны блок, знешні цвёрды дыск, тэлефон. Сказалі: апранайся, едзем з намі.Ператрус ладзілі супрацоўнікі ГУБАЗіК МУС. Няясна, прычым тут арганізаваная злачыннасць і карупцыя да графіці?

У выніку мяне прывезлі на адрас Сапёраў, 7. Там падышоў чалавек — Ігар Паўлавіч Л., — які пачаў на мяне ціснуць. «Думаеш, самы разумны? За цябе ніхто не падпісваецца. Давай нармальна паказанні». Мяне збілі колькі хвілін таму, а цяпер хочуць, каб я паказанні даваў! У мяне шок, цела баліць, усё ломіць. Ён хацеў, каб я сказаў, што гэты хлопец мяне паклікаў рабіць тое, а я адмовіўся, а той хлопец паклікаў іншае рабіць, а я таксама адмовіўся. Карацей, хацелі, каб паздаваў хлопцаў.

На наступны дзень прыехалі на кватэру да маіх бацькоў. Зрабілі і тамператрус.

Дзяржаўная адвакатка — што яна была, што яе не было. Хі-хі, хаха, больш фліртавала з сілавікамі. Ніякай дапамогі не было.

Да мяне зноў падышоў Ігар Паўлавіч Л., які прапанаваў выйсці, паразмаўляць. Ён пачаў ціснуць на мяне цяжарнай дзяўчынай, аднекуль ужо ведалі. «У цябе жонка вось-вось народзіць, а ты тут хернёй маешся, едзь да яе ў Магілёў, — кажа. — Калі пагодзішся супрацоўнічаць, то паедзеш дадому. Ты мне — я табе».




Пасля я пайшоў на афіцыйны допыт. Я пацвердзіў, што размовы аб графіці сапраўды былі, але не памятаю, хто мне прапаноўваў туды ехаць, сто гадоў таму было. Сказаў, што адмовіўся ехаць, бо дзяўчына цяжарная. Пыталіся, ці прапаноўвалі яшчэ ў чымсьці ўдзельнічаць. На гэтым мяне адпусцілі.

Усе арыштаваныя — нармальныя, здаровыя хлопцы. Ніякія яны не радыкалы».

Яраслаў кажа, што ні ў палітычных партыях, ні ў моладзевых арганізацыях удзелу не браў. Гэтак сама як і не мае дачынення да анархістаў ці футбольных фанатаў.

**Запісаў ЗП**

# На выбарах будзе два кандыдаты ад казакоў?

Кіраўнік штаба Віктара Цярэшчанкі называе сябе **«генерал-маёрам расійскіх казацкіх войскаў».**

Асаблівасць беларускай выбарчай кампаніі — 2015 — важная роля кіраўнікоў ініцыятыўных груп. Адразу некалькі кандыдатаў падобныя да манекенаў, якіх з сабой цягаюць сапраўдныя гаспадары сітуацыі, кіраўнікі штабоў.

Міхаіл Вобразаў — сябар рэспубліканскай рады праўладнай «Белай Русі». Ён курыруе «атамана» Мікалая Улаховіча. «У нас, у адрозненне ад іншых, ёсць строгі план-графік, якім мы кіруемся», — патлумачыў ён. Паводле плана, колькасць сабраных подпісаў перавaліла за 100 тысяч.

Хто-небудзь бачыў зборшчыкаў Улаховіча-Вобразава? З 2600 чалавек, якія ўдзельнічалі ў апытанні на сайце NN.by, толькі шасцёра паведамілі, што да іх прыходзілі зборшчыкі подпісаў у падтрымку Улаховіча.

На тэрыторыі Мінска быў заўважаны толькі адзін пікет у яго падтрымку, дый той не карыстаўся папулярнасцю. Пры нас людзі там узнялі на смех «народнага генерала» Улаховіча.

Іншы прэтэндэнт, Віктар Цярэшчанка, у сваёй выбарчай кампаніі знаходзіцца на другіх ролях пасля Алега Несцяркова.

Даходзіць да абсурду. У інтэрв'ю радыё «Свабода» Цярэшчанка як на духу прызнаўся, што плаціць за подпісы студэнтам-зборшчыкам. Насамрэч схема супярэчыць заканадаўству, бо прэтэндэнт можа размяркоўваць сродкі толькі са свайго выбарчага фонду. А там у Цярэшчанкі грошай — кот наплакаў.

«Я, па шчырасці, не ведаю, гэтымі пытаннямі займаецца Алег Пятровіч [Несцяркоў — «НН»], я перадам яму трубку», — стаў апраўдвацца на наступны дзень Цярэшчанка. «Я вам заяўляю: мы нікому не плацім», — абверг словы «шэфа» Несцяркоў.



Алег Несцяркоў (другі злева) апякуецца Віктарам Цярэшчанкам.

Мікалай Улаховіч (справа) не падобны да самастойнай палітычнай фігуры. Працэсам кіруе Міхаіл Вобразаў

Фота: Сяргей Гудзілін

Штаб прэтэндэнта імкнецца замацаваць за сабой першае месца сярод спарынг-партнёраў Аляксандра Лукашэнкі. Агучваецца, што сабрана больш за 140 тысяч подпісаў. І гэта нібыта ўдалося праз адзінкавыя пікеты з нявопытнымі студэнтамі, якія нават не ведаюць праграмы свайго кандыдата.

Хто ж такі Алег Несцяркоў, які спрабуе весці рэй у перадвыбарчай гонцы? Ён кажа, што працуе намеснікам дырэктара ТАА «Брандтрэйд», якое прадае вогнеўстойлівыя склады для будматэрыялаў.

Але апроч гэтага, Алег Пятровіч яшчэ і казак. Пры гэтым не просты казак, а цэлы «генерал-маёр» і прадстаўнік «Вялікага брацтва казацкіх войскаў Расійскай Федэрацыі» ў Беларусі.



Фота: Сяргей Гудзілін

Сябры гэтага «брацтва» актыўна бяруць удзел у вайне ва Украіне, пра што самі расказваюць на сваім сайце. Больш за тое, за змаганне за «рускі свет» «есаулы» нават выдаюць узнагароды сваім паплечнікам. У астатнім матэрыялы сайта багатыя на праваслаўныя артыкулы і байкі пра «расчалавечванне» Еўропы. На застаўцы сайта, дарэчы, узброены чалавек, абвешаны георгіеўскімі стужкамі.

Аднак «казацкі генерал» — гэта толькі пачатак спісу рэгалій Алега Несцяркова.

Яго імя ўзгадваецца ў якасці сябра Беларускага грамадскага аб'яднання «Русь», якое абазначае сваёй мэтай «прасоўванне і развіццё ў Беларусі рускай мовы і рускай культуры, умацаванне ў насельніцтва Беларусі ўсведамлення сваёй прыналежнасці да агульнарускай нацыянальна-культурнай супольнасці, садзейнічанне станаўленню і ўмацаванню Рускага свету як цывілізацыйнага паняцця».

Таксама Алег Несцяркоў — сябра «кардынацыйнай рады суайчыннікаў Расіі» Беларусі. На гэтай пасадзе Алег нават атрымаў ганаровую грамату ад расійскага пасольства ў 2011 годзе.

Ідзем далей — Алег Несцяркоў называўся «намеснікам старшыні Камітэта нацыянальных відаў спорту Асамблеі народаў Расіі», а таксама быў старшынёй аргкамітэта «Сустрэчы лідараў славянскага руху».

Пры ўсім гэтым Алег мае пасаду «статского советніка» ў нібыта беларускім «шляхецка-дваранскім клубе «Мірскае графства» пры Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій. Акадэміі такога кшталту — псеўданавуковыя грамадскія арганізацыі, якія дазваляюць надзяліць сябе і сваіх знаёмых навуковым рэгаліямі.

Як Несцяркову ўдаецца спалучаць столькі пасадаў і якія палітычныя погляды ў гэтага носьбіта «рускага свету» — каментаваць штосьці для «Нашай Нівы» ён адмовіўся.

**Арцём Гарбацэвіч, Ягор Марціновіч**

## Калякін і Лябедзька сумленна прызнаюць, што не збяруць па 100 тысяч подпісаў

У лідара партыі «Справядлівы свет» Сяргея Калякіна за пяць дзён да заканчэння збору подпісаў было ў актыве 70 тысяч подпісаў.

«Складанасць сітуацыі ў тым, што тэмпы збору подпісаў падаюць. За апошні тыдзень мы не сабралі нават і дзесяці тысяч. Гэта дрэнна. Я думаю, нават амаль перакананы, што сто тысяч мы не збяром. На «раптам», канечне, можна спадзявацца. Але будаваць палітыку на гэтым нельга», — кажа кіраўнік ініцыятыўнай групы Калякіна Валер Ухналёў.

У актыве лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі падобныя лічбы. «Я казаў мінулым разам, што мы ўжо маем каля 70 тысяч, і гэта аказалася вельмі аптымістычным. Гэта ўсё даволі прыблізна. Але, я думаю, пакуль у нас і 70 тысяч не будзе. Калі збіраеш з месяцаў інфармацыю праз тэлефон, хтосьці хоча яе крыху падмаляваць. А калі пачынаеш больш падрабязна разбірацца, то бачыш, што гэтага няма», — прызнаецца кіраўнік яго выбарчага штабу Леў Марголін.

Абодва кандыдаты выраштлі праявіць сумленнасць і не «дамалёўваць» сабе подпісы.

**Паводле радыё «Свабода»**

## «Я не бачыў ніводнага чалавека, які ўспрымаў бы сучасную дзяржаўную сімволіку як святыню»

Кандыдат ад «Народнага рэферэндуму» Таццяна Караткевіч у чарговы раз падкрэсліла сваю ва ўсіх сэнсах «умераную» пазіцыю. Падчас наведвання Бабруйска яна заявіла, што з'яўляецца прыхільніцай двухмоўя. На яе думку, руская мова мусіць захоўваць статус дзяржаўнай. А калі б Караткевіч стала прэзідэнтам, вынесла б пытанне аб дзяржаўнай сімволіцы на рэферэндум. Маўляў, калі людзі прагаласуюць за цяперашні афіцыйны сцяг і герб, хай яны і застаюцца.

На гэтыя заявы крытычна адрэагаваў гісторык **Аляксандр Пашкевіч**.

«Свежыя скандальныя выказванні Таццяны Караткевіч па пытаннях мовы і сімволікі выклікалі дастаткова гарачае абмеркаванне. Не кранаючы пытання мовы (думаю, яго трэба разглядаць зусім асобна), выкажу толькі сваю думку пра сімволіку.

Мне падаецца, што пазіцыя Караткевіч і тых, хто падтрымаў яе (сярод апошніх былі і нечаканыя для мяне людзі), абумоўленая перадусім няправільнай базавай перадумовай, якая пакладзена ў аснову разважанняў.

Паводле яе, у сённяшняй Беларусі адносна поглядаў на нацыянальную/дзяржаўную сімволіку існуюць цяжкаперадольныя супярэчнасці паміж рознымі групамі грамадзян. Для адной групы безумоўнай каштоўнасцю з'яўляюцца бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня», другая ж ледзь не моліцца на цяперашнюю афіцыйную сімволіку. Замена цяперашняй дзяржаўнай сімволікі на нацыянальную нібыта нанясе прыхільнікам першай вялікую незагойную рану, і такога прыніжэння яны ніколі перажыць ды дараваць не змогуць. У выніку атрымаецца глыбокі раскол грамадства. Варта адзначыць, што разважанні, абапертыя на падобныя прыпушчэнні, часам з'яўляліся і раней, Караткевіч тут Амерыкі не адкрыла.

На маю думку, тут мае месца звычайнае тэарэтызаванне, мадэляванне нейкай ідэальнай сітуацыі, якой на самай справе няма ані блізка.

Мне асабіста за 20 гадоў, якія праляцелі з часоў рэферэндуму 1995 г., неяк не давялося на свае вочы пабачыць хоць аднаго чалавека, які ўспрымаў бы сучасную дзяржаўную сімволіку як святыню. Такіх, якія не мелі нічога супраць яе, бачыў безліч (бо гэта, відаць, большасць нашага сучаснага грамадства), але каб казалі пра яе з надрывам, са слязамі на вачах, з рукой каля сэрца? Ну, не ведаю.

Аргументы на карысць гэтай сімволікі звычайна не ідэйныя, а больш «пафігісцкія»: маўляў, мне ўсё адно, што яны там павесілі, на мой заробак гэта не ўплывае, ды і наогул увогуле нешта мяняць — толькі грошы траціць. Карацей, людзі хутчэй не ЗА гэтую сімволіку, а НЕ СУПРАЦЬ яе, што розныя рэчы. Мяняць герб і сцяг большасць людзей, калі іх запытаць, мабыць, не захоча, але калі ўсё ж памяняюць, то каб дзеля гэтага нейкія пратэсты арганізоўваліся, грамадзянскі канфлікт правакаваўся? Не веру я абсалютна ў такую магчымасць. Падобныя канфлікты могуць узнікаць толькі ў выпадку, калі замахнуліся сапраўды на святое, а не на тое, што «хай сабе вісіць, якая розніца».

І ў падобнай сітуацыі навошта самім штучна ствараць праблему, якой не існуе, публічна гаворачы пра нейкія будучыя гіпатэтычныя рэферэндумы, якія толькі адныя і могуць вырашыць пытанне сімволікі?

Кампрамісы трэба шукаць па сапраўды прынцыповых для грамадства і таму патэнцыйна выбуханебяспечных пытаннях (як моўнае), а тое, што большасці грамадства паралельна, належыць вырашаць у звычайным працоўным парадку, ды не трацячы часу на пустыя дыскусіі. Калі, натуральна, некалі будзе магчымасць нешта вырашаць».

# Надзея Ермакова здавала дом у Драздах за $7500 за месяц

Ахвотных зняць катэдж за такія грошы **не знайшлося**.

Былая старшыня Нацбанка Надзея Ермакова атрымала ўчастак у Драздах яшчэ ў 2006 годзе. Побач з ёй пабудаваліся і іншыя чыноўнікі, бізнэс- і спортэліта.

Пазней Ермакова перапісала гэты дом на старэйшую дачку Наталлю Чэпікаву, а сама атрымала яшчэ адныя 15 сотак, пабудаваўшы сабе катэдж на першай берагавой лініі ў суседнім раёне Вяснінка.

Цяпер стары дом у Ізумрудным завулку здаецца ў доўгатэрміновую арэнду з усёй мэбляй і бытавой тэхнікай.

На 15 сотках у гаспадароў гэтага дома знаходзіцца невялікі ставок з прэснай вадой, дарожка, брукаваная каменем, зона для барбекю з печчу-камінам і ляжанкай.

Побач з зонай для адпачынку разбіты агарод з высокімі парасонамі кропу і іншай зелянінай, якую цяперашнія гаспадыні вырошчваюць, «каб да стала была свая зеляніна». Тут жа пасаджаны малады садок.

У аб'яве ўказана, што катэдж двухузроўневы, плошчай 336 м². Адзін з шасці пакояў адведзены пад гасцінуую з камінам і канапавай зонай. На каміне заўважана рамка-дрэва з сямейнымі фотаздымкамі.

**Надзея Ермакова**

Нарадзілася ў 1953 у вёсцы Разальмоў Хоцімскага раёна. Працавала ў структурах Беларускай рэспубліканскай канторы Дзяржбанка СССР (1971—1984), у Шклоўскім райвыканкаме (1984—1994), у шклоўскім аддзяленні «Белаграпрамбанка» (1994—1995).

У 1996—2011 — намесніца старшыні праўлення, старшыня праўлення «Беларусбанка». У 2011—2014 — старшыня праўлення Нацбанка.

У 1999—2015 — старшыня ГА «Беларускі саюз жанчын».

Двойчы разведзеная, мае дваіх дзяцей.

Разглядзець, хто на іх, складана. Затое не выклікае сумненняў партрэт на камодзе, на якім сама экс-кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова.

Над тэлевізарам на паліцы стаіць вясельнае фота адной з дачок, акуратна расстаўленая калекцыя лялек — такіх параўнальна нядаўна прадавалі ў шапіках «Белсаюздруку». Трохі вышэй стаяць фігуркі сланоў і вярблюдаў.

На другую фатаграфію патрапілі абедзенны стол і кот.

У кабінеце стаіць скураны гарнітур, на працоўным стале — фірмовы каляндар Нацбанка. Такі ж каляндар можна было заўважыць і на працоўным стале Надзеі Андрэеўны ў Нацбанку, калі там быў дзень адчыненых дзвярэй. Дарэчы, тады галоўная банкірка краіны назвала драўлянае, абабітае тканінай крэсла «каралеўскім». «Гэта каралеўскае крэсла. А я не каралева. Гэта крэсла сёння проста паставілі для карцінкі, каб было прыгожа. Але я такія не люблю», — казала Надзея Ермакова.

На сцяне, там, дзе ў дзяржструктурах звычайна вешаюць партрэт Аляксандра Лукашэнкі, тут, дома, — здымак Мэрылін Манро.

Мяркуючы па акне ў столі, спальня знаходзіцца на другім паверсе. Тут усё сціпла.

Як мяркуецца, на другім паверсе знаходзяцца і два дзіцячыя пакоі.

На сайце ўказаны кошт за арэнду гэтага дома: за месяц трэба будзе заплаціць $6000. Летась за яго прасілі яшчэ больш — $7500.

«У дадзены момант мы перадумалі здаваць дом, ці будзе ён здавацца надалей — не магу дакладна сказаць», — адказалі на званок па ўказаным нумары.

Тым часам Надзея Ермакова дабудавала свой новы дом у Вяснінцы. Суседзі тут — не менш уплывовыя домаўладальнікі: бізнэсмен Аляксандр Шакуцін, тэнісістка Вікторыя Азаранка, намеснік старшыні Беларускай федэрацыі тэніса Сяргей Цыцэрын і іншыя.

**Паводле: Алена Зуева, realt.tut.by**










## Суседка саступіла суседцы

Беларускі саюз жанчын перайшоў пад кіраўніцтва **Марыяны Шчоткінай**.



У Мінску прайшла пазачарговая канферэнцыя Беларускага саюза жанчын, на якой было вырашана змяніць кіраўніцтва арганізацыі. Ранейшая старшыня Надзея Ермакова папрасілася ў адстаўку. «Я складаю з сябе паўнамоцтвы старшыні не таму, што я вас не люблю, а таму, што гэта трэба для арганізацыі», — патлумачыла яна. На яе думку, арганізацыю мусіць узначаліць «чалавек, які займае сур'ёзную дзяржаўную пасаду».

Так і адбылося. На чале саюза стала міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна, суседка Ермаковай па Вяснінцы. Раней яна ўваходзіла ў прэзідыум арганізацыі. У зале сядзела і яшчэ адна жыхарка таго ж элітнага пасёлка — Лідзія Ярмошына.

У Беларускі саюз жанчын запісана больш за 183 тысячы чалавек. Арганізацыя стварае ілюзію дзейнасці грамадзянскай супольнасці ў краіне.

Ермакова не хавае, што на выбарах саюз падтрымае кандыдатуру Аляксандра Лукашэнкі.

**ЯМ**

## Беларусы — рэкардсмены па разводах

Летась у Беларусі пабраліся шлюбам 83 942 пары, але пры гэтым 34 864 сям'і прыйшлі ў ЗАГС, каб афіцыйна разарваць адносіны.

Каэфіцыент разводаў у Беларусі склаў 3,7 (колькасць разводаў на 1000 чалавек). Гэта найвышэйшы паказчык сярод краін, якія цалкам знаходзяцца ў Еўропе.

Беларусы саступаюць у гэтай намінацыі толькі Расіі, дзе каэфіцыент дасягае 4,7. У балтыйскіх краінах сем'і летась былі крыху мацнейшыя: у Літве (3,4) і Латвіі (3,2).

А вось у Польшчы, дзе касцёл мае вялікі ўплыў на грамадства, фіксуецца ўдвая менш разводаў, чым у балтыйскіх краінах.

Уяўляе інтарэс і розніца паміж рэгіёнамі Беларусі. Самыя трывалыя сем'і на Брэстчыне і Гродзеншчыне (3,2 і 3,4 адпаведна). На Міншчыне і Віцебшчыне — 3,7. Найбольш разводаў на Магілёўшчыне і Гомельшчыне (3,8).

Мінск стаіць у рэйтынгу асобна. У сталіцы летась было зарэгістравана 4 разводы на 1000 чалавек.

**ЯМ**

# Курс даляра ў абменніках дасягнуў 16300

Працяг са старонкі 1.

Аднак я не падтрымліваю песімістычны сцэнар, паводле якога ўлады штучна падтрымаюць курс рубля да выбараў, а пасля іх нібыта будзе вялікі абвал. Не — сёння валютны курс забяспечваецца попытам на біржах і ў абменніках. Можна нават сказаць, што гэта рынкавы курс, і раптоўнага падзення дакладна не будзе, перадумоў для яго няма».




Меркаванне Багданкевіча часткова падтрымаў і эканаміст Павал Балточка, адзначыўшы, што пытанне фарміравання курсу ўсё ж застаецца больш палітычным, чым эканамічным.

«Рубель мацнець не будзе, гэта факт, ён, безумоўна, дасягне і 17 тысяч, і 20 тысяч за даляр, але пытанне, як хутка гэта адбудзецца, — адрэзаў Балточка. — Тут шмат фактараў: дзеянні насельніцтва, тэмпы падзення цэнаў на нафту, абясцэньванне расійскага рубля. І пасля выбараў у Беларусі ёсць два эканамічныя сцэнары: альбо плаўнае пагружэнне ў вір, як яно адбываецца цяпер, альбо шокавы «адаптацыйны» перыяд у кароткa- і сярэднетэрміновай перспектыве у выпадку рэформ».

**Арцём Гарбацэвіч**

**Фактары, якія вядуць да дэвальвацыі**

Падзенне цэнаў на нафту. Экспарт нафтапрадуктаў — галоўная крыніца валюты для Беларусі. Бараль нафты цяпер каштуе $48,5 проці $105 год таму.

Падзенне расійскага рубля. Экспарт Беларусі, за выключэннем нафты і калію, завязаны на Расію.

Крызіс у расійскай эканоміцы. Найбуйнейшы гандлёвы партнёр Беларусі сутыкнуўся з сістэмным крызісам. У другім квартале 2015 года ВУП упаў на 4,6%.

Перавытворчасць у эканоміцы. Прамысловыя гіганты не могуць прадаць усю сваю прадукцыю, на прадпрыемствах скарочаныя працоўныя тыдні.

Крэдытаванне стратных прадпрыемстваў. Стратныя заводы патрабуюць дзяржаўных датацый.

Плаціць па даўгах трэба. Крэдыты, якія атрымлівае Беларусь ад іншых дзяржаў, ідуць на пагашэнне папярэдніх крэдытаў, а не на развіццё эканомікі.

## Прадаўцы просяць $1450, пагаджаюцца на $1350

Кватэры ў Мінску па-ранейшаму таннеюць.

Цэны стабільна зніжаюцца на працягу года. За гэты час цана квадратнага метра зменшылася з $1690 да $1350 (рэальныя ўгоды).

1-пакаёвыя — $1425
2-пакаёвыя — $1319
3-пакаёвыя — $1235
4-пакаёвыя — $1123

Прадаўцы не радыя такім нізкім цэнам. Яны прапануюць квадратны метр у сярэднім за $1450.

**ЯМ**

## Беларус заняў першае месца ў конкурсе праграмавання Google

20-гадовы гомельскі вундэркінд Генадзь Караткевіч заняў першае месца ў спаборніцтвах сусветнай карпарацыі *Google*.

У фінале ён змог рашыць 5 з 6 задач, патраціўшы на гэта 3 гадзіны 59 хвілін. Пераможца атрымаў $15 тысяч і магчымасць узяць удзел у фінале *Google Code Jam* і ў наступным годзе.

Усяго ў фінале ўзялі ўдзел 26 праграмістаў, сярод якіх быў яшчэ адзін беларус.

Перамога Генадзя Караткевіча, студэнта Санкт-Пецярбургскага нацыянальнага даследчага ўніверсітэта інфармацыйных тэхналогій, механікі і оптыкі, стала другой — праграміст ужо перамагаў



у гэтых спаборніцтвах летась. Акрамя таго, у 2013 годзе першае месца на *Google Code Jam* займаў іншы беларус, Іван Мяцельскі.

*Google Code Jam* — міжнароднае спаборніцтва па праграмаванні, якое праводзіцца *Google* з 2003 года. Яно складаецца з набору алгарытмічных задач, якія павінны быць рэшаныя за фіксаваны час.

**Паводле БелТА**

## Пад Навагрудкам мясцовы бізнэсовец пабудаваў незвычайны прыпынак

Побач з возерам Літоўка і аднайменнай вёскай у Навагрудскім раёне знаходзіцца, магчыма, самы прыгожы ў Беларусі аўтобусны прыпынак.

Прадпрымальнік Сяргей Коваль, які будуе па суседстве дом, аформіў яго па матывах знакамітай паэмы Адама Міцкевіча «Гражына».

Літоўка знаходзіцца ўсяго за 2,5 км ад раённага цэнтра, і гараджане масава прыязджаюць сюды ў выходныя. Затрымліваюцца паглядзець на прыпынак і турыстычныя аўтобусы.



Прыпынак зроблены з каменю і дрэва, накрыты дахам з чароту. На сцяне — завяршальны фрагмент паэмы Міцкевіча. Паводле тэксту, менавіта тут прайшла апісаная паэтам легендарная бітва паміж войскамі навагрудскага князя Літавора і Тэўтонскім ордэнам, у якой пад выглядам князя ўдзельнічала ягоная жонка Гражына. Сама сцэна бітвы тут таксама намаляваная. З іншага боку — стылізаваная карта Беларусі.

На ініцыятыву прадпрымальніка звярнулі ўвагу і мясцовыя ўлады. У чэрвені менавіта тут, на берагах Літоўкі, праходзіў раённы Дзень моладзі, а прыпынак стаў імправізаванай сцэнай.

**Tut.by**

# Беражкова падазраюць у раскраданні 3 тысяч даляраў

**Вядомы журналіст і хакейны функцыянер змешчаны ў ізалятар на Валадарскага.**

14 жніўня спартовыя СМІ паведамілі, што сілавікамі затрыманы спартовы менеджар хакейнага «Дынама», у мінулым журналіст, рэдактар «Прессбола», Уладзімір Беражкоў. У Следчым камітэце паінфармавалі, што гаворка вядзецца пра раскраданне сумы, не меншай за 45 мільёнаў рублёў. Адметна, што зусім нядаўна ў ізалятары часовага ўтрымання апынуўся генеральны дырэктар «Дынама» Максім Суботкін. Менавіта Беражкова паставілі выканаўцам абавязкаў генеральнага менеджара.

Мінскае «Дынама» — гэта самы багаты спартыўны клуб Беларусі. У некаторыя гады бюджэт каманды дасягаў 18 мільёнаў даляраў у год. А заробкі хакеістаў даходзілі да мільёна даляраў у год. Цяпер часы наста    лі худзейшыя, але «Дынама» па-ранейшаму мае ў абароце немалыя сумы.

Варта адзначыць, што справы ў ХК «Дынама» пад асабістым кантролем трымае ўласна Аляксандр Лукашэнка. А кіраўніком назіральнай рады клуба з'яўляецца міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч.

Пакуль да канца незразумела, што менавіта стаіць за затрыманнем. «Наша Ніва» згадвае цікавыя старонкі біяграфіі сп.Беражкова.

### Заснавальнік і рэдактар «Прессбола»

Мы кажам Беражкоў — уяўляем «Прессбол». Гаворым «Прессбол» — уяўляем Беражкова. 19 гадоў гэты чалавек узначальваў самую папулярную і пазнавальную спартыўную газету краіны.

Беражкоў нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Скончыў журфак БДУ. Два гады адслужыў у войску. А апошнія гады існавання СССР працаваў у дзяржаўным інфармацыйным агенцтве БелТА, у аддзеле з дзіўнай назвай — вайскова-патрыятычнага выхавання і спорту. На момант стварэння «Прессбола» яму было 25 гадоў.

«Прессбол» стаў адметнай старонкай у гісторыі беларускай журналістыкі. Чытачы нудзіліся ад справаздач «Фізкультурніка Белоруссіі», «Советскій спорт» не пісаў пра Беларусь. А тут такое свежае выданне з адметнымі аўтарамі, якое і чорта не баіцца.

У 2014 Беражкоў сышоў з «Прессбола» ў хакейнае «Дынама». Ён яшчэ шкадаваў, што так і не прыдумаў, што можна зрабіць з папяровай газетай, каб пакінуць яе на плыву.




**Злева направа: гендырэктар мінскага «Дынама» Максім Суботкін, спартыўны менеджар Уладзімір Беражкоў, старшыня Беларускай федэрацыі хакея Ігар Рачкоўскі. Першыя двое цяпер за кратамі.**

### Прыйшоў прыстаў, апісаў чайнік

З «Прессболам» неаднаразова судзіліся многія ўплывовыя людзі ў беларускім спорце і ўладзе.

Адзін з найбольш адчувальных удараў быў нанесены на пачатку 2005 года, калі суд Цэнтральнага раёна Мінска вымусіў газету «Прессбол» выплаціць 30 мільёнаў рублёў міністру фінансаў, кіраўніку федэрацыі гімнастыкі Мікалаю Корбуту, уласна сам Беражкоў мусіў сплаціць 10 мільёнаў (4,6 тыс. даляраў па тым курсе). На той час гэта немалыя грошы. «Прессбол» пакаралі за публікацыю пра тое, што ў федэрацыю гімнастыкі ўладкаваліся людзі з цёмным мінулым.

Сплаціць усю суму адразу Беражкоў не мог, таму да яго на кватэру прыходзілі міліцэйскія приставы, якія апісвалі ўсю маёмасць, нават чайнік.

Яшчэ адну гісторыю Беражкоў расказваў у інтэрв'ю «НН». Яна здарылася пасля публікацыі матэрыялаў так званай «справы крата». Аб тым, як гульцы зборнай Беларусі маглі ў 2003 годзе здаць матчы Чэхіі і Малдове. Беражкоў казаў, што падазраваны па справе спрабаваў даць яму хабар: «У той самы час на машыну наляцелі амапаўцы ў масках. Яны надзелі на мяне кайданкі, паклалі тварам на асфальт, некалькі разоў ударылі па нырках. Я зразумеў, што трапіў у нейкую пастку. Мяне адвезлі ва ўпраўленне па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю. Праз нейкі час мяне вызвалілі, бо пераканаліся, што я працую ў рамках следства, тым больш грошы не браў. Калі б я зрабіў хоць адзін няправільны крок, то ўжо сядзеў бы ў турме», — казаў Беражкоў.

### Гуляў у хакей з Лукашэнкам

Менавіта хакей, а не футбол быў заўсёды прыярытэтным відам спорту для Уладзіміра Беражкова. Доўгі час (1993—2001) ён нават быў намеснікам старшыні ў Беларускай федэрацыі хакея. Гэта той час, калі наша зборная дасягала першых поспехаў, прабівалася на чэмпіянаты свету і Алімпіяду.

І сам Беражкоў ніколі не быў супраць паганяць шайбу. Даводзілася яму гэта рабіць як у камандзе Аляксандра Лукашэнкі, гэтак і супраць яго.

У інтэрв'ю «Салідарнасці» ён згадваў: «Гуляць у хакей з Лукашэнкам цікава. Вельмі цікава. Лукашэнка — гэта эпоха. Лукашэнка — гэта важны дзяржаўны дзеяч. Лукашэнка — гэта найцікавейшая асоба, глыба. Магчымасць згуляць з ім у хакей дае небывалыя ўражанні і досвед. Плюс, не буду хаваць, гэта цешыць самалюбства».

На пытанне, якія ў вас палітычныя погляды, Беражкоў адказваў: «Яны адсутнічаюць».

### Сям'я



Сын Мікіта.

Бацька Уладзіміра, Пятро Беражкоў, быў родам з вёскі Рэчыца Полацкага раёна. Ён таксама скончыў журфак БДУ. Быў адказным сакратаром у газеце «Советская Белоруссія». А праз нейкі час увогуле ўзначаліў агенцтва БелТА. Нават за савецкім часам Пятро Беражкоў меў магчымасць выязджаць за мяжу. Напрыклад, на сесіі ААН у Нью-Ёрк.

Старэйшы сын Уладзіміра Беражкова нарадзіўся, калі таму было 19 гадоў. Мікіта нейкі час працаваў прэс-сакратаром мінскага «Дынама», яшчэ да таго, як туды прыйшоў бацька. Большую частку часу Мікіта Беражкоў бавіць у Маскве.

Таксама ў Беражкова двое яшчэ непаўналетніх дзяцей ад другога шлюбу — 13-гадовы Пятро і 10-гадовая Ганна.

### Ішоў у «Дынама» пад лозунгамі барацьбы з карупцыяй

У мінскае «Дынама» Беражкоў прыйшоў наводзіць парадак. Газета доўгі час крытыкавала папярэдніх начальнікаў каманды — Аляксея Торбіна і Ігара Матушкіна. Маўляў, развялі бардак у самым багатым клубе краіны.

Увогуле, Беражкоў неаднакроць крытыкаваў размеркаванне фінансавання ў беларускім хакеі. «Грошы засцяць вочы», — аднойчы сказаў ён эмацыйна.

«Народныя грошы сыходзяць у чорную дзірку», — гэта таксама словы Беражкова.

Па стане на мінулы год афіцыйная зарплата Беражкова ў «Дынама» складала 17 мільёнаў рублёў.

Пасля сканчэння мінулага сезона Беражкоў раздаваў інтэрв'ю, што «новую каманду мы пачынаем будаваць ужо цяпер». Магчыма, дабудоўваць давядзецца ўжо новым асобам.

**Зміцер Панкавец**

### Рэакцыя грамадскасці на арышт Беражкова

«Вы ўсё яшчэ думаеце, што Беларуссю кіруе Лукашэнка? Кіньце. Гэтай краінай кіруюць оперы. Гэта яны сёння вырашаюць лёс цэлых галін».

**Юрый Зісер, уладальнік партала tut.by**

«Ніяк не магу зразумець, хто з прапанаваных кандыдатур найбольш падыходзіць на пазіцыю рэжысёра спектакля?»

**Мікіта Беражкоў, сын затрыманага**

«Нашага Пятровіча бессаромна выкарысталі лайдакі, зладзеі і «імпатэнты», якія не ўмеюць ствараць, а здольныя толькі красці, ненавідзець і помсціць. Таму і краіна коціцца ў тартарары. Думаю, яны яшчэ не разумеюць, што робяць і на каго замахнуліся».

**Барыс Тасман, журналіст «Прессбола»**

«Беларусы, што здарылася? Ды Беражкоў ні капейкі скрасці не мог і не хацеў. Што ж вы робіце!»

**Аляксей Шаўчэнка, расійскі хакейны журналіст**

«Мне даводзілася стаяць з Валодзем спінай да спіны пад абстрэлам мярзотнікаў. Ён ні разу не здрэйфіў і нават не падагнуў ног. Мне бясконца шкада, што цяпер не магу падставіць спіну. Пятровіч, трымайся. Ты моцны, дружа!»

**Сяргей Новікаў, карыфей беларускай спартыўнай журналістыкі**

«Цяжка ўявіць сабе, што чалавек, які з маладых гадоў прысвяціў сябе беларускаму хакею, амаль чвэрць стагоддзя змагаўся з карупцыяй у айчынным спорце, раптам за годператварыўся ў «раскрадальніка народнай уласнасці».

**Аляксандр Старыкевіч, рэдактар «Салідарнасці»**

«Ужо зразумела, што гэтае «Дынама» не будзе ранейшым. Не будзе ранейшым і стаўленне да яго. Асабіста мне яно ўжо нецікавае. І калі мяне за гэтыя словы пазбавяць сезоннай акрэдытацыі, я не знервуюся. Дадатковы аргумент на карысць расстаўленых акцэнтаў не перашкодзіць».

**Руслан Бацянкоў, журналіст БелаПАН**

«У Беражкове ўпэўнены. Ну а тое, што зайздрасць і нянавісць — характэрная рыса многіх прыкарытнікаў, не навіна ўжо даўно, яны і ёсць тое самае балота, з якім Беражкоў заўсёды змагаўся. Пераможа і ў гэты раз, не сумняваюся — сілаў табе зычу, Вова».

**Сяргей Шчурко, аўтар кнігі «Каханне і спорт»**

«Па-першае, імя прэзідэнта ў падобных публікацыях трэба ўжываць вельмі асцярожна. Па-другое, тыя, хто мяркуе, што Міхаіл Захараў у гэтай сітуацыі на нешта прэтэндуе, глыбока памыляюцца. У нас ніколі не было праблем з мінскім «Дынама»: ні з Уладзімірам Навумавым, ні з Юрыем Бародзічам, ні з Уладзімірам Беражковым. І не будзе. Трэба думаць пра тое, што пішаце».

**Міхаіл Захараў, трэнер хакейнага «Юнацтва»**

# Святлана Алексіевіч — фаварыт на атрыманне Нобеля ў літаратуры. «Новая газета» — прэміі міру

Букмекерскія канторы пачалі прыём ставак на атрыманне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры і міру. Перавага ў рэйтынгах букмекераў не азначае безумоўную перамогу, але найчасцей узнагарода дастаецца камусьці з першай дзясяткі падобных спісаў.

У літаратуры на дадзены момант лідзіруе 67-гадовая беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч. Стаўкі на яе перамогу прымаюцца з каэфіцыентам 5 да 1.

Шматгадовы фаварыт Харукі Муракамі на дадзены момант знаходзіцца на другім месцы. Калі паставіць на японца адзін даляр, то ў выпадку яго перамогі можна атрымаць шэсць доляраў.

Нарэшце, на трэцім месцы кеніец Нгугі Ва Тхіёнга. Летась ён лічыўся абсалютным фаварытам букмекераў, але прэмія дасталася французу Патрыку Мадыяно, які быў толькі чацвёртым у спісах прэтэндэнтаў. Стаўкі на Тхіёнга на дадзены момант складаюць 7 да 1.

Што тычыцца Нобелеўскай прэміі міру, то сёлета тут з'явіўся абсалютна новы фаварыт, які не фігураваў у спісах папярэдніх гадоў.

Гэта каталіцкі святар з Эрытрэі Мусі Зэраі, якія апошнія гады жыве ў Швейцарыі. Гэты чалавек дваццаць гадоў ратуе афрыканскіх уцекачоў, якія шукаюць прытулку ў Еўропе. Дзякуючы яму, тысячы людзей змаглі захаваць сабе жыццё, плывучы на хісткіх маторках праз Міжземнае мора. Стаўкі на Зэраі прымаюцца з каэфіцыентам 5 да 1.

Задушэнне палітычных свабод у Расіі паўплывала на тое, што незалежная «Новая газета» з'яўляецца адным з найбольш імаверных прэтэндэнтаў на Нобеля. Стаўкі на яе прымаюцца 6 да 1.

Імёны пераможцаў у гэтых намінацыях будуць агучаны 8 і 9 кастрычніка.

**Зміцер Панкавец**






**Святлана Алексіевіч вывучала савецкага чалавека. І вось ён ізноў на хвалі. А айцец Мусі Зэраі ратаваў людзей.**



# Студэнты БНТУ пачалі прадаваць «альтэрнатыўныя» вышымайкі

Стартап студэнтаў БНТУ *Fainy.by* быў прадстаўлены аўдыторыі 11 жніўня. «Фаіны» называюць сябе «саюзам маладых, творчых дызайнераў і суперсучаснага вышывальнага абсталявання». Праект будзе прадаваць цішоткі і іншае адзенне як з малюнкамі з нацыянальным арнаментам, так і з афіцыйнай сімволікай Беларусі — ці проста без малюнкаў.

Цэны пазначаныя дзіўныя — ад нуля да 130 тысяч за майку.

Некаторыя тавары нагадваюць «вышымайкі» накшталт тых, што прапануе *Symbal.by*. Праўда, з такіх у продажы на сайце пакуль толькі шэра-чырвоная жаночая вышымайка і сінежоўтая мужчынская, а таксама белая кепка з блакітным элементам арнаменту.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Як выглядае старонка Ігара Бузоўскага, які патрабуе ад чыноўнікаў актыўна працаваць у сацыяльных сетках




«Міністэрствы і ведамствы павінны больш актыўна працаваць у сацыяльных сетках», — заявіў намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Ігар Бузоўскі. Ён праводзіў навучальны семінар-практыкум для прэс-сакратароў.

Як прадстаўлены ў сацыяльных сетках сам галоўны ідэолаг? Інтэрнаўты знайшлі толькі адну старонку Ігара Бузоўскага, дый тую ў «Аднакласніках».

Бузоўскі апошні раз заходзіў у свой профіль 7 гадоў таму. На ягонай старонцы 8 сяброў і ніводнага фотаздымка.

**ЯМ**

## Беларуска-ізраільскі Viber амаль дагнаў Skype

Штомесяц ім карыстаюцца 249 млн чалавек, «скайпам» — 300 млн.

*Bloomberg* склаў рэйтынг папулярнасці месенджараў — праграм для абмену паведамленнямі для камп'ютараў і смартфонаў. У пяцёрцы лідараў два «кітайцы», два амерыканскія сэрвісы і адзін — з беларускімі каранямі.

Самы папулярны месенджар свету — кітайскі *QQ* з 843 млн карыстальнікаў штомесяц. Следам за ім ідзе *WhatsApp* з 800 млн і *Facebook Messanger* з 700 млн. Апошнія два належаць *Facebook*. Inc, чыёй сацсеткай карыстаюцца 1,5 млрд чалавек. На чацвёртым месцы кітайскі *WeChat* з 600 млн карыстальнікаў.

Адсутнасць у рэйтынгу *Skype* паставіла беларускаізраільскі *Viber* на пятае месца з 249 млн карыстальнікаў, актыўных штомесяц. На студзень такіх было 236 млн, а яшчэ ў пачатку 2014 года — трохі менш за 100 млн, калі японскі тэлекам-гігант *Raketen* набыў месенджар за 900 млн даляраў.

Офіс *Viber* месціцца на Кіпры, цэнтры распрацоўкі ёсць у Мінску і Брэсце, а таксама ў Ізраілі. Кампанія ўваходзіць у Парк высокіх тэхналогій.

**АА**

**На душы**

# Не магу маўчаць

Піша **Ганна Харланчук-Южакова**.

Я ніколі не выкладвала свае асабістыя думкі ў публічную прастору, але нядаўняе здарэнне вымушае мяне гэта зрабіць. У акцёраў гэта называецца «не магу маўчаць».

Зранку зайшла ў бібліятэку, каб узяць дзецям кнігі. У ёй я ўпершыню, таму запісваюся. Бібліятэкарка запытвае, колькі дзіцяці гадоў. Па маім адказе разумее, што не дзіцяці, а дзецям, якіх чацвёра. Тады, гледзячы на мой жывот, запытвае:

— Гэта што, пятае?

— Так.

— Гэта для кватэры?

— Што?????????

Кожны раз, калі я чую гэтае пытанне, хочацца верыць, што мне падалося, што я нешта не так зразумела. Але, на жаль, не падалося. Пытанне было: «Гэта для кватэры?». Тады я проста слупянею і нічога не магу сказаць.

Але выраз майго твару адназначна змяняецца, і жанчына, апраўдваючыся, кажа:

— Многа хто так робіць.

— Жах, — усё, што я змагла ёй адказаць, і хутчэй адтуль пайшла, бо думала, што выбуху.

Адтуль я паехала забіраць дзяўчатак з музычнай школы, сустракаць з імі Піліпа, каб яго адвезці на англійскую мову. А ён прывёў мне Аліву, бо яна яшчэ маленькая, каб заставацца дома адна, таму ўсіх астатніх дзяцей развозіць па занятках разам са мной.

Увесь час у галаве стаяла пытанне: «Гэта для кватэры?».

І я падумала, а што, калі б зараз камусьці з маіх дзяцей, а лепш усім адразу, сказаць, што яны каштоўныя для нас толькі таму, каб на іх нам далі большую кватэру. Мы ж ужо пяць гадоў усе жывём у двухпакаёўцы. Яны павінны зразумець.

Чаму не? Давайце скажам ім, тым, для каго мы, бацькі, самыя важныя і неабходныя, ад якіх яны чакаюць моцнай рукі, якая прывядзе іх у дарослае жыццё, і вялікага шчырага сэрца, у якім ёсць неабходнасць іх любіць, пакрываць і прабачаць ім іх памылкі, давайце скажам нашым дзецям, што прыход іх на гэтую Зямлю не дзеля іх вялікага паклікання, а пытанне ў 20 кв.м. Але ж ім гэтыя лічбы незразумелыя, яны нават усміхнуцца. Таму скажам працэй: «Вы нясвоечасовыя, непатрэбныя, проста лішнія...» Давайце?

Я ехала і задавала сабе сто пытанняў. Калі наша грамадства апынулася ў стане, дзе дзеці сталі жахлівым цяжарам, жыццё стала смеццем?

Грамадства, дзе на цяжарную жанчыну з чатырма дзецьмі ўвесь час аглядаюцца і спачувальна ўздыхаюць. Як жа так? У якім стане мы знаходзімся, што многія сем'і нараджаюць дзяцей, каб палепшыць свой жыллёвы стандарт. А тыя, хто не нараджае і не марыць пра вялікую сям'ю, думаюць пра шматдзетныя сем'і, што імі кіруе не любоў да дзяцей, а толькі жаданне жыцця ў новай вялікай кватэры.

Жыццё перастала быць для нас каштоўнасцю?

Дзеці абцяжарваюць настолькі, што бацькі не дачакаюцца, калі скончацца выходныя, каб зноўку адправіць гэтых монстраў у садок, школу ці яшчэ кудысьці. Я чую: «Які жах, ты выхоўваеш іх дома. Я думала, табе стане лягчэй з пачаткам навучальнага года».

Я зноў слупянею ад гэтых фраз, хаця пара ўжо да іх прызвычаіцца.

Таму лепш я пайду спаць, бо ўжо позна, і думкі блытаюцца. І, канечне ж, мне трэба ўзнавіць сілы, каб заўтра рана прачнуцца — любіць, абдымаць, адказваць на неймаверную колькасць пытанняў, выхоўваць, навучаць, сядзець разам гадзінамі за падручнікамі, за фано, разбірацца ў нотах, гатаваць, усміхацца, сумаваць, хвалявацца, памыляцца разам, у адказ увесь час чуць «я так моцна цябе люблю». Каб уначы зноў упасці без сіл, ведаючы, што быць бацькамі — гэта вялікая адказнасць. Што дзеці — гэта дар Нябёсаў. Што яны — вялікая каштоўнасць для Бога, а значыць і для мяне. І што сёння гэта складаная праца, але ад яе будзе залежаць, кім стануць мае дзеці. Ці змогуць яны стаць людзьмі, якія будуць сціраць са свядомасці нашага грамадства сумнае, адмоўнае ўяўленне пра шматдзетныя сем'і.

Ніколі раней я не хацела казаць пра гэта ці хваліцца сваёй сям'ёй. Хіба што журналісты ў інтэрв'ю заўсёды спытаюцца пра дзяцей ды выхаванне. Але сёння мне хочацца пра гэта крычаць. Развесіць бы па ўсім горадзе борды і рэкламу са шчаслівымі шматдзетнымі сем'ямі з надпісам «Шчасце, а не 20 кв.м.». Менавіта шчаслівымі, бо я такіх ведаю нямала.

Што думаеце Вы? Хто для Вас дзеці?

# Тэлевядучая Паліна Шуба выйшла замуж



Яна пабралася шлюбам з 35-гадовым Валерыем Шапчыцам.

Выязная рэгістрацыя адбылася на беразе Свіслачы. «Жаніх увайшоў у браму ў касцюме гусара», — пісалі ў інстаграме госці.

Сведкай на вяселлі была спявачка Вікторыя Алешка, у якасці сяброўкі нявесты запрасілі прызёрку Алімпійскіх гульняў Ксенію Санковіч (яна таксама часта з'яўляецца ў кампаніі Лукашэнкі).

Са старонкі жаніха ўкантакце вядома, што ён вучыўся ў Акадэміі кіравання.

Валерый таксама выстаўляе свае здымкі падчас службы ў часці 3214 і настальгуе па Савецкім Саюзе. «ЧК НКВД нашыя дні», — падпісанае адно з яго фота.

**Сямён Цыбульскі**

## Чалавецтва вычарпала свае рэсурсы на гэты год

Ад 14 жніўня мы шкодзім планеце.

Існуе пэўны ліміт рэсурсаў, які Зямля можа аднавіць. На год гэты ліміт такі, што сённяшняе чалавецтва спажыла ўсе «дапушчальныя» рэсурсы ўжо 13 жніўня. Упершыню мы «пераступілі рысу» ў 1970 годзе.

З таго часу людзей на Зямлі стала на 95% больш, а пазваночных жывёл — менш на 52%, сцвярджаюць эколагі.

Умоўная рыса ўлічвае толькі патрэбы чалавека ў рэсурсах — патрэбы іншых жывых істот нават не ўлічваюцца, а ў іх мы таксама адбіраем рэсурсы ды шкодзім ім сваёй дзейнасцю (хаця ўва многім ад іх залежым).

Яшчэ 15 год таму мы дасягалі ліміту 4 кастрычніка. Сёння мы выкарыстоўваем столькі рэсурсаў, колькі магла б нам даць не адна, а 1,6 Зямлі. Час перасяляцца на большую ў 1,6 раза за нашую планету «Зямлю 2.0»? Не.

Эколагі сцвярджаюць, што, калі развіццё эканомікі будзе ісці звычайнымі тэмпамі, нам не хопіць і «Зямлі 2.0» — ужо ў 2030-м нам спатрэбіцца двайная колькасць рэсурсаў Зямлі. Праўда, калі скараціць на трацціну вугляродныя выкіды (гэта палова нашага «следа» на Зямлі), да 2030 года мы можам «уціхамірыцца» да 1,5 Зямляў.

З сённяшнімі тэмпамі росту эканомікі ў 2030-м мы вычарпаем «дапушчальную» норму 20 чэрвеня, але калі скароцім вугляродныя выкіды на трацціну, то толькі 16 верасня.

Змену клімату праз дзейнасць чалавецтва назваў галоўнай пагрозай прэзідэнт ЗША Барак Абама. Нядаўна ён прапанаваў план, паводле якога Штаты маюць на трацціну скараціць выкіды парніковых газаў да 2030 года. Але ці выканае ЗША план пры наступных прэзідэнтах і ці рушыць за Амерыкай астатні свет, невядома.

**АА**

## Каты перамаглі сабак у эвалюцыі



З эвалюцыйнага пункту гледжання каты аказаліся значна больш прыстасаванымі за сабак, пішуць швейцарскія навукоўцы ў часопісе PNAS. Толькі ў Паўночнай Амерыцы каты прывялі да вынішчэння 40 відаў сабак — сабакі ж не здолелі вынішчыць ніводзін від катоў.

Каля 20 млн гадоў таму каціныя з'явіліся ў Паўночнай Амерыцы. Яны аказаліся больш эфектыўнымі паляўнічымі, многія сабачыя засталіся без ежы. У выніку колькасць сабачых стала скарачацца, вымерла прынамсі 40 відаў.

Звычайна мяркуецца, што вызначальную ролю ў эвалюцыі мае клімат. Але даследаванне дзвюх тысяч скамянеласцей паказала, што клімат аказаўся меней уплывовым за катоў. У выпадку сабачых Паўночнай Амерыкі падобна, што галоўную ролю мелі каціныя, а дакладней, канкурэнцыя з імі за ежу.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Славуты трэнер Жазэ Маўрынью матам паслаў доктарку «Чэлсі»




Галоўны трэнер ФК «Чэлсі» Жазэ Маўрынью груба абразіў доктара лонданскага клуба Еву Карнейра падчас матча 1-га тура англійскай прэм'ер-лігі са «Суонсі» (2:2).

Медперсанал «Чэлсі» выбег на поле для аказання дапамогі паўабаронцу Эдэну Азару, які атрымаў пашкоджанне. Калі Карнейра вярнулася да лаўкі лонданцаў, Маўрынью пракрычаў у яе адрас па-партугальску *«Filha de puta»*, што перакладаецца як «дачка шлюхі».

Транскрыпцыю сваркі Маўрынью з Карнейра перадала іспанская газета *Marca* са спасылкай на *Sky Sports*.

Карнейра была адхіленая клубам ад працы на трэніроўках і матчах пасля крытыкі ў яе адрас з боку Жазэ Маўрынью, які застаўся незадаволены дзеяннямі Карнейра ў матчы 1-га тура АПЛ супраць «Суонсі» (2:2).

Доктара «Чэлсі» падтрымалі Асацыяцыя футбольных медыкаў і Аб'яднанне дактароў АПЛ.

Сёння стала вядома, што Ева Карнейра хоча публічных выбачэнняў ад Маўрынью і можа падаць у суд на «Чэлсі».

**By.tribuna.com**



## У Беларусі больш за 40% правераных грыбоў і прыкладна 30% ягад — радыеактыўныя

Такія вынікі радыяцыйнага кантролю грыбоў і ягад службы радыяцыйнага кантролю лясгасаў і «Беллесахова».

Як паведамляе дзяржаўная ўстанова «Беллесахова», усяго за чэрвень—ліпень адабрана ў лясах, на кантрольных палігонах і змерана 280 проб грыбоў і 842 ягад. З іх у 117 пробах грыбоў (41,9%) утрыманне цэзію-137 перавышала дапушчальны ўзровень — 370 Бк/кг. Перавышэнне РДУ-99 (рэспубліканскія дапушчальныя ўзроўні ўтрымання радыенуклідаў цэзію-137 і стронцыю-90 у харчовых прадуктах і пітной вадзе) у ягадах (185 Бк/кг) выяўлена ў 252 пробах (29,9%). Максімальныя ўзроўні ўтрымання цэзію-137 у грыбах дасягалі значэнняў 8.760 Бк/кг, у ягадах — 2.635 Бк/кг.

Перавышэнне дапушчальнага ўзроўню ўтрымання ў грыбах і ягадах зафіксавана на тэрыторыі радыеактыўнага забруджання лясного фонду лясгасаў усіх лесагаспадарчых аб'яднанняў, акрамя Віцебскага.

«Трэба ведаць і пра метады кулінарнай апрацоўкі грыбоў і ягад, сабраных у забруджаных кварталах лесу. Старанная ачыстка грыбоў і ягад ад часціц глебы, іглiцы, травы, неадназовае прамыванне ў праточнай вадзе, гатаванне (можна два-тры разы са зменай вады пасля кіпячэння) перад падрыхтоўкай асноўных страў прывядзе да значнага памяншэння радыенукліду цэзія-137 у гатовай ежы», — гаворыцца ў паведамленні.

**БелаПАН**

Кіно

## ЦРУ і КДБ супраць мафіі




Агенты А.Н.К.Л.
**Жанр:** баявік, камедыя, прыгоды
**Рэжысёр:** Гай Рычы
**У ролях:** Генры Кавіл, Армі Хамер, Алісія Вікандэр, Элізабет Дэбікі, Х'ю Грант, Лука Кальвані, Сільвестр Грот
ЗША, 116 хв.
**Адзнака:** 8

Пачатак 1960-х гадоў, разгар халоднай вайны. Напалеон Сола (Генры Кавіл) — агент ЦРУ, на рахунку якога велізарная колькасць паспяхова праведзеных аперацый. З ім можа параўнацца толькі адзін чалавек — самы малады і перспектыўны агент КДБ Ілля Куракін (Армі Хамер). Вымушана адклаўшы ў бок варожасць, яны аб'ядноўваюцца для супольнай місіі — спыніць міжнародную злачынную арганізацыю, якая імкнецца дэстабілізаваць далікатны баланс сіл, распаўсюджваючы ядзерную зброю. Адзіная зачэпка — дачка зніклага нямецкага навукоўца-ядзершчыка Габі (Алісія Вікандэр), які з'яўляецца ключом для пранікнення ў злачынную арганізацыю.

Новы фільм Гая Рычы («Карты, грошы, два ствалы» (1998), «Шэрлак Холмс» (2009)) заснаваны на аднайменным серыяле, які выходзіў у 1964—1968 гадах. Падзеі фільма адбываюцца праз год ці два пасля кубінскага ракетнага крызісу. Гэта арыгінальная гісторыя, якая не расказвалася ў серыяле.

Стужка адрозніваецца тонкім і дасціпным гумарам. «Самае лепшае ў гэтым фільме тое, што гэта не тыповая камедыя, дзе мы стараемся быць смешнымі. Проста ёсць сітуацыі, якія ў пэўным кантэксце здаюцца смешнымі», — расказаў Генры Кавіл пра сваю працу. Адначасова гэта і добрая камедыя, і захапляльны дэтэктыў, і выдатна стылізаваны шпіёнскі баявік.

Здымкі праходзілі ў Вялікабрытаніі і Італіі. Стужка старанна ўзнаўляе антураж 60-х: некаторыя касцюмы, выкарыстаныя ў фільме, на самай справе з'яўляюцца вінтажным адзеннем. Большасць трукаў Генры Кавіл і Армі Хамер выканалі самастойна.

**Настасся Уласава**

*The Man from U.N.C.L.E.* — арыгінальная назва стужкі. «*U.N.C.L.E.*» абазначае «*United Network Command for Law and Enforcement*».

# Як я працу праз агенцтва шукаў

Я павёўся на вельмі просты падман. У інтэрнэце шмат зваблівых абвестак пра рабочыя месцы з харошай зарплатаю…

Паважаная рэдакцыя!

Карыстаюся Вашай прапановай паведамляць пра выпадкі парушэння правоў, няспраўядлівасці і г.д. Што праўда, у маім выпадку нават найшырэйшы розгалас па СМІ не прывядзе да выпраўлення сітуацыі асабіста для мяне, але, магчыма, мой адмоўны досвед паслужыць іншым.

Гаворка ідзе пра пошук працы праз агенцтвы. Тэма дастаткова гарачая. Знайсці працу, асабліва ў правінцыі, вельмі няпроста, шукаюць многія. Вось і я шукаў. І павёўся на вельмі просты, празрысты падман.

У інтэрнэце шмат звабливых абвестак пра рабочыя месцы з харошай зарплатаю і — што для мяне важна — з жыллём і вахтавою працаю. Але «мы агентство, услуга платная, заключаем договор с полной предоплатой и ведём вас до полного трудоустройства, без вариантов».

Скажу адразу, заплаціць за паслугу не шкада, але і паслугі не атрымаеш. Канкрэтны прыклад — мая дамова №440 ад 9 ліпеня 2015 года з «частным предприятием «Старт-гарант» (калі меркаваць па квітанцыі аплаты, бо так яны сябе называюць «единый центр вакансий»), што месціцца ў Мінску на Першамайскай, 18. Пакуль агентка з прыгожым імем Яня хацела залучыць мяне ў кліенты, то бок атрымаць перадаплату, яна і сама набірала мой мабільны нумар, клікала. А як салодка «пела» — «да у нас более ста крупных кампаний, да не вопрос — мы за неделю найдём вам место, именно такое, как в рекламе, с вахтой і жильём, иные варианты даже и не обсуждаются». І ўсё умомант перамянілася, варта было толькі дамову заключыць і заплаціць.

А зараз увага ўсім, хто не хоча патрапіць на гэты лахатрон кідалаўскі.

## Увага ўсім, хто не хоча патрапіць на гэты лахатрон!

У дамове няма гаворкі пра працаўладкаванне — толькі інфармацыйныя паслугі: цягам месяца агенцтва абяцае два разы на тыдзень даваць інфармацыю, тэлефоны магчымых працадаўцаў. У маім выпадку гэта звялося да таго, што ў аўторак-чацвер мне званілі — альбо і не званілі, даводзілася самому набіраць, — паведамляючы два-тры тэлефоны. Сярод гэтых тэлефонаў траляліся нумары іншых платных кадравых агенцтваў (!) — заплаціў за тое, каб мяне адаслалі заключаць новую платную дамову інфармацыйнага абслугоўвання!

Трэцяя частка тых, каму я тэлефанаваў, была вельмі здзіўлена: адкуль вы ўзялі гэты нумар? Бывалі адказы, што, маўляў, набор на працу даўно закончаны, прынамсі, да таго часу, як «Яня Вячеславовна соизволила» мне прыслаць нумар.

Словам, тры тыдні я абзвоньваў некалькі дзясяткаў нумароў, абсалютна ўпустую — ніякага намёку на магчымасць працаўладкавацца па рэкламе, з жыллём і вахтаю, а потым «выканаўца Старт-Гарант» і ўвогуле забыў пра маё існаванне, хаця нават месяц на інфармацыйнае абслугоўванне па дамове яшчэ не закончыўся.

Хачу папярэдзіць тых, хто шукае працы і звяртаецца да салодкагалосых сірэн па інтэрнэт-рэкламе. Не вядзіцеся на абяцанкі, чытайце прапанаваную дамову. І ведайце, што ў найлепшым выпадку гэтыя платныя інфармацыйныя агенцтвы працуюць для жыхароў Мінска — працоўныя месцы сапраўды ёсць, але трэба мець жыллё, гэта раз, і жыць у горадзе пастаянна, гэта два.

Так што патраціце грошы, час, нервы і застанецеся ля разбітага карыта. І нават калі б тут існаваў суд: што можна патрабаваць? «Шукалі інфармацыю? Вам яе давалі? Вашы праблемы…»

І далей будуць у інтэрнэце закідваць вуду на наіўных: «работа! вахта! жытло іншагароднім! аплата 15 млн адразу пасля вахты!»

**Сяргей Дычок, Бярозаўка (Лідскі раён)**

# «Калі буду ў Менску, то падпішуся»

Калі я буду ў Менску, таксама падпішуся за аднаго апазіцыйнага кандыдата. А за кандыдатку падпісвацца не буду.

У Мёрах збіраюць за апазіцыйнага кандыдата Л., але да іх мне даехаць цяжэй, чым да Менска.

А так у райцэнтрах стаяць пікеты за Лукашэнку. І па кватэрах ягоныя адэпты ходзяць. Недалёка ад нас загадчыца дзіцячага садка абышла сваю вёску і суседнія, сабрала каля 200 подпісаў. У Параф'янаве па кватэрах таксама хадзілі. Дзве мае суседкі па доме адмовіліся падпісвацца.

Я і на выбары схаджу бы. Хай бы чальцы камісіі пабачылі, за каго людзі галасуюць (калі той кандыдат дойдзе да выбараў). Але я жыву за 22 км ад месца прапіскі, ад свайго выбарчага ўчастка, то мусіць і не паеду адмыслова.

Я ў 2010 годзе назіральнікам быў, фальсіфікатараў за руку злавіў. Гэта рэдка каму ў Беларусі ўдавалася.

За гэта скаргу ў пракуратуру напісала на мяне праўладная назіральніца, супрацоўніца аддзела ідэалогіі райвыканкама. Што грамадзянін Шыталь незаконна апытваў выбарцаў, пагражаў сябрам выбарчай камісіі і размясціў «недостоверную» інфармацыю ў інтэрнэце. Міліцыянт, які мяне апытваў, даў зразумець, што гэта помста за тое, што я надаў розгалас факту парушэнняў. Абвінавацілі мяне, што я перавышаў паўнамоцтвы назіральніка, апытваючы выбарцаў. Насамрэч, у першы дзень датэрміновага галасавання я злавіў на першым паверсе школы (памяшканне для галасавання было на другім) хабзайца і спытаў, ці па сваёй волі ён прыйшоў на ўчастак у першы дзень датэрміновага галасавання.

**Кастусь Шыталь, Докшыцкі раён**

# «Кніжны салон» не закрыўся

Ці праўда, што «Кніжны салон» закрыўся? Я раней купляў кнігі ў гэтай кнігарні на вуліцы Калініна, 5. Цяпер прыйшоў — а там замок на дзвярах, напісаў у «Нашу Ніву» чытач Валер.

Як распавялі ў «Кніжным салоне», кнігарня ў ліпені сыходзіла на летні адпачынак, не працавала цягам месяца. Цяпер салон зноў адчынены, працуе па летнім графіку: па будніх да 18:00.

«Кніжны салон» быў адкрыты ў 2010 годзе, яго кіраўніцтва ставіла мэтай продаж найперш прадукцыі беларускіх выдавецтваў, ад класікі мастацкай літаратуры да краязнаўчых і навуковых выданняў, а таксама выданняў малых накладаў, антыкварных і сувенірных кніг. Разам з кнігарняй працуе арт-галерэя.

**АА**

# Падман у малым і ў вялікім?

У магазіне «Алмі» на праспекце Дзяржынскага ў Мінску прадаюцца кавуны з Украіны пад маркай прадукцыі Казахстана. На налепках — «Украіна, Херсон», на цэнніку — «Казахстан».

Ёлкі-палкі! Калі нават так, пры наяўнасці налепак, круцяць, то што з тымі прадуктамі, дзе налепак няма?

Трэба ўсё ж, каб кантроль за якасцю і паходжаннем тавараў быў у нас лепшы.

**Міхал, Мінск**

### Газета ідзе ў людзі

Дзе ні чытаю «Нашу Ніву» — у цягніку ці ў лякарні — людзі просяць даць пачытаць. Пасля газета ідзе ў людзі. Бывае, вяртаюць. Дарагое выданне. Аднойчы нат шакаладку за яе атрымала!

**КВ**

### Вершаваным радком

Таццяна Барысік

## Нашы словы



Словы нашай роднай мовы ў кожнай вёсцы і сяле.
Нашы словы — гэта свята пад сталом і на стале.
Нашы словы — абгаворы на куце і па вуглах.
Нашы словы — гэта песні на хаўтурах і сталах!
Словы нашай роднай мовы памагаюць выжываць.
Бо як звяга пачалася — не спыніць і не стрымаць!
Наплявузгалі суседцы, што сусед кош бульбы ўкраў.
Пажадала, каб за бульбу дамавіны пакупляў.

Я не шмат жыву на свеце, але мне не ў навіну —
Ў вочы кажуць: «Рады бачыць!»
А за вочы: «Пракляну!»

### Прыватныя абвесткі

**Віншуем Паўла і Марыну Батуевых** з узяццем шлюбу! Сябры



**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.
У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.
Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**



## Мы пенсіянеры-настаўнікі. Кожны чацвер грэеш нам сэрцы, «Наша Ніва»

Добры дзень, «Наша Ніва»!

Вельмі добра, што ты ў нас ёсць. Кожны чацвер грэеш нам сэрцы. Мы пенсіянеры-настаўнікі: Курмель Марыя Міхайлаўна — біёлаг (1949 г.н.) і Гаўрылкевіч Лявон Іосіфавіч — гісторык (1949 г.н.). Працавалі з 1971 года да выхаду на пенсію ў Вішнеўскай школе. Выхавалі і далі вышэйшую адукацыю пяці сынам. Маем 8 унукаў. Так што жыццё пражылі, як кажуць у народзе, «ні зра».

Вельмі любім класічную беларускую літаратуру: Багдановіча, Быкава, Барадуліна, Коласа, Купалу, Караткевіча. Чытаем зімой па вечарах адзін аднаму любімыя старонкі. І самі пакрысе пішам вершы і мініяцюры.

Усяго вам добрага. Беражыце сябе!

**Вішнева, Смаргонскі раён**

Марыя Курмель

### Лес

Я люблю наш прыгожы лес,
Твор прыроды самы чароўны,
Сосны стромкія да нябёс
І чарнічнік багаты, роўны.

На ўскрайку раскідзісты дуб,
Стукат дзятла ляснога дзесьці,
Спеў птушыны на шмат галасоў
І вавёрку, што скача па вецці.

Я знайду ў ім утульны куток,
Грыбоў, ягад зьяру багата.
І напоўніца сэрца святлом.
Лес для нас, што родная хата.

Беражыце, шануйце яго,
Ад пажараў ліхіх і растраты.
Хай красуецца праз вякі
Твор прыроды самы выдатны.

Лявон Гаўрылкевіч

### Мініяцюра

Самая
страшная
хвароба
чалавека —
гэта не рак,
не СНІД,
а лянота.

**Ад рэдактара.** Дзякуй за цёплыя словы і шмат добрых вершаў. Добрага здароўя вам, і хай Ваша сям'я будзе шчаслівым узорам не толькі Вашым унукам, але і праўнукам, і суседзям. На такіх, як вы, свет трымаецца.

# «Мы дамовіліся сустрэцца ўдзень, але ўначы Славаміра забілі»

У Лідзе **дзень нараджэння скончыўся** забойствам.

Славамір з кампаніяй адзначаў свой дзень нараджэння 8 жніўня. Хлопцу споўнілася 25 гадоў. Выпівалі. А ўначы разгарэлася сварка.

«Малады чалавек шмат выпіў, у выніку чаго на глебе рэўнасці ўчыніў скандал. У нейкі момант дзяўчына схапілася за нож, якім пашкодзіла хлопцу артэрыю», — паведамілі ў абласной міліцыі. Удар прыйшоўся ў жывот. Іншы ўдзельнік застолля выклікаў міліцыю. Праз гадзіну Славамір скнаў у бальніцы.

«Наша Ніва» пагаварыла з сяброўкай маладога чалавека, з якой у яго пачалі завязвацца рамантычныя адносіны. І якія раптоўна абарваліся.

Марына пазнаёмілася са Славамірам у ліпені. Хлопец дадаўся да яе ў сябры ў сацыяльных сетках. Перапісваліся спачатку. А затым сустрэліся.

«Мы пазнаёміліся тыдні тры таму, у нас адразу наладзіліся сяброўскія адносіны. У мяне дзеці ёсць, з мужам мы не жывём. Слава пачаў мне дапамагаць. Я паехала да сяброўкі ў Ліду, ён прапанаваў зайсці. Прыйшоў, мы размаўлялі, пілі чай. Увечары Слава мяне праводзіў на аўтобус».

Марына жыве ў Воранаўскім раёне. «Ён кожны дзень мне тэлефанаваў — кожныя паўгадзіны мяне набіраў. Нават прызнаўся ў каханні, сказаў, што хоча быць са мной. 8 жніўня я помніла, што мне трэба яго павіншаваць. Я сама першая напісала яму віншаванне. Пасля яшчэ патэлефанавала. Ён прапанаваў назаўтра сустрэцца. Увечары я званіла, ён ужо не адказваў. А затым мне ў сацыяльных сетках прыйшло паведамленне, што ён выдаліў мяне з сяброў. Я нічога не зразумела.

9 жніўня я прыехала ў Ліду, чакала, што ён сам патэлефануе. Ён не набраў. Пасля я адшукала нумар яго брата. І Юра расказаў, што 8 жніўня ўвечары Славік збіраўся адзначыць свой дзень нараджэння. Паехаў да нейкай дзяўчыны, а пасля яны пасварыліся. Што яны не падзялілі, не ведаю. Але яна схапіла нож і пырнула. Яго шпіталізавалі, зрабілі аперацыю, а праз гадзіну ён скнаў. А дзяўчыну адразу забралі ў міліцыю».

13 жніўня хлопца пахавалі. «Мне патэлефанавала жанчына. Сказала, што мой нумар у Славіка ў тэлефоне падпісаны як «любімый малыш». Сказала, калі будзе пахаванне», — плача Марына.

Здарэнне адбылося ўначы 9 жніўня на кватэры ў 26-гадовай Яні. Яна і схапілася за нож. Вядома, што дзяўчына працуе памочніцай выхавацелькі ў Лідзе.

Крымінальная справа распачатая за наўмыснае нанясенне цяжкага цялеснага пашкоджання, што пацягнула па неасцярожнасці смерць. Дзяўчыне пагражае ад 5 да 15 гадоў калоніі.

**Сяргей Макарэвіч**



САЦЫЯЛЬНЫЯ СЕТКІ

# «Зазірнулі нават у боршч — думалі, там грошы схавалі»

**Скончыўся гучны працэс** па справе спажывецкіх кааператываў.

За карупцыю судзілі шэраг работнікаў Белкаапсаюза і бізнэсоўцаў. Працэс цягнуўся з красавіка. У выніку былы кіраўнік спажывецкіх кааператываў Сяргей Сідзько правядзе за кратамі 12 гадоў і мусіць выплаціць 90 мільёнаў рублёў штрафу. Былы начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва і інвестыцый Дзмітрый Калодзезны — 5,5 года і 54 мільёны штрафу. Астатніх фігурантаў прысудзілі да 2,5—3,5 года зняволення.

Сяргея Сідзько абвінавацілі ў тым, што ён атрымліваў адкаты ад бізнэсоўцаў, а таксама лабіраваў інтарэсы прыватных фірм пры заключэнні дамоваў на будаўніцтва і рамонт белкаапсаюзаўскіх аб'ектаў.

Аднак да сёння так і не адшукалі тысячу даляраў, якая мусіла стаць галоўным козырам пры абвінавачанні Сідзько.

Паводле матэрыялаў следства, у ліпені 2013 кадэбісты прапанавалі дробнаму бізнэсоўцу Уладзіміру Ленскаму, якому выставілі абвінавачанне ў пасобніцтве ў дачы хабару, паўдзельнічаць у аператыўным эксперыменце. Ён мусіў перадаць Сідзько тысячу даляраў хабару мечанымі купюрамі і бутэльку віскі. Старшыню Белкаапсаюза, чыя пасада прыраўніваецца да міністэрскай, вырашылі ўзяць на гарачым, каб надзейна.

Ленскі зайшоў да Сідзько на кватэру. Падарыў гаспадару бутэльку спіртнога. І праз якую хвіліну ўварваліся кадэбісты. Пачаўсяператрус.

Па словах Сідзько,ператрус доўжыўся амаль суткі — 22 гадзіны. Шукалі тыя мечаныя даляры. Спачатку дагледзелі гаспадара, яго жонку, дачку і ўнучку. Затым выклікалі пажарных, каб яны праверылі вентыляцыю — ці не схаваны грошы там. Але ўсё марна. Тады выклікалі сантэхніка, каб ён зняў унітаз. Грошай не было і там.

«Падчас ператрусу агледзелі ўсё. Я нават уявіць не магла, што так бывае. Знялі вентыляцыйныя люкі, дэмантавалі ўнітаз (ён да сёння так і ляжыць — мне сказалі, што могуць прыйсці яшчэ не адзін раз), прачысцілі каналізацыю. Зазірнулі ў пральную машыну, нават спрабавалі ляпніну на спінцы ложка адарваць: а раптам там схованка? Адкруцілі ўсе разеткі, з шафаў усё павыцягвалі, нават боршч з халадзільніка дасталі: думалі, можа, там грошы схавалі...» — расказала ў інтэрв'ю «Народнай Волі» жонка Сідзько Таццяна.



Андрэй Турчанка (злева) і Сяргей Сідзько.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Але на тым не скончылася. Гаспадара адвезлі да медыкаў, дзе праверылі на рэнтгене, апусцілі ў страўнік зонд. Меркавалі, паколькі грошай няма ў кватэры, то хабар ён з'еў. У выніку яго пасадзілі ў камеру, паставілі вядро замест прыбіральні і тыдзень не выносілі. А пасля дбайна праверылі — зноў не знайшлі. Так пытанне з грашыма і падвісла. Праўда, у абвінавачанні гэты эпізод фігураваў.

**Кастусь Матушыч**

## Вышук





**Ілжэсацработнікі**

У Мінску затрымалі чатырох жыхароў Брэстчыны: дзвюх жанчын і двух мужчын. Іх падазраюць у шэрагу крадзяжоў са сталічных кватэр. Пад выглядам сацыяльных работнікаў яны заходзілі ў кватэры пенсіянераў. Калі вы пацярпелі ад людзей на фота, звяртайцеся ў Маскоўскае РУУС Мінска на: (017) 286-22-02, (029) 177-53-65.

## Сцісла

**Хірурга вызвалілі ад адказнасці**

Крымінальную справу аб непрафесіяналізме хірурга Дубровенскай бальніцы спынілі. Справа тычылася выпадку з ампутацыяй рукі вайскоўцу хлопчыку. На папярэднім пасяджэнні Віцебскага абласнога суда абвінавачаны пагадзіўся на спыненне крымінальнай справы ў сувязі з амністыяй. Родныя хлопчыка могуць патрабаваць матэрыяльнай кампенсацыі ад доктара.

**Школьніца трапіла ў рэанімацыю за спробу зрабіць фота**

14-гадовая Яня і яе школьная сяброўка адправіліся на чыгуначную станцыю Аранчыцы ў Пружанскім раёне, каб зрабіць адтуль некалькі фотаздымкаў. Дзяўчынка, выбраўшы пусты вагон, які знаходзіўся пад высакавольтнай лініяй электраперадачы, залезла на дах. Праз імгненне школьніцу ўдарыла токам, і Яня страціла прытомнасць. Дзяўчына атрымала апёк твару, шыі, грудзей, спіны, абедзвюх рук і ног — плошча паражэння 50%. Знаходзіцца ў рэанімацыі.

**Дурная смерць**

27-гадовая мінчанка пасля сваркі з мужам, на пяць гадоў старэйшым за яе, выскачыла з аўтамабіля і загінула. Яна памерла па дарозе ў бальніцу. Здарэнне адбылося 16 жніўня паблізу вёскі Загароўшчына Капыльскага раёна. Вядома, што загінулая знаходзілася ў дэкрэтным адпачынку.

**Напаў і фельчарак пабіў**

У Магілёве затрыманы за дробнае хуліганства 64-гадовы пенсіянер, які збіў дзвюх жанчын-фельчараў хуткай дапамогі. Мужчына быў нападпітку і паскардзіўся, што яму не вельмі добра, папрасіў выклікаць хуткую. Але ў размове медыкаў пенсіянеру нешта не спадабалася, і ён накінуўся на жанчын.

**Пад Маладзечнам загінуў кітаец**

Аварыя адбылася раніцай 13 жніўня паблізу вёскі Хоўхлава Маладзечанскага раёна. 28-гадовы грамадзянін Кітая, кіроўца «Шэўрале», урэзаўся ў дрэва. Ён з траўмамі шпіталізаваны, а 29-гадовы пасажыр-суайчыннік загінуў. Абодва жылі ў вёсцы Міхалішкі Астравецкага раёна. Усяго ў Міхалішках жыве некалькі дзясяткаў кітайцаў, якія праводзяць на Астравецкую АЭС лініі электраперадачы.

**У скурна-венералагічным**

У Гомельскім абласным клінічным скурна-венералагічным дыспансеры 29-гадовая жыхарка Лоева двойчы ўдарыла сталовым нажом 45-гадовага гамельчука. Інцыдэнт здарыўся на лесвічнай пляцоўцы між паверхамі. Пацярпелы паспеў спусціцца ўніз і папрасіць медперсанал аб дапамозе, аднак выратаваць яго не ўдалося. Падазраваная была моцна п'яная, таму нічога не памятае.

**КМ**

# Беларусы адзначыліся ў расейскіх вайсковых гульнях

15 жніўня на падмаскоўным палігоне Алабіна ўрачыста закрылі першыя Армейскія міжнародныя гульні. Беларусы **занялі трэцяе месца**, краіны НАТА адмовіліся ад удзелу.

Армейскія міжнародныя гульні — своеасаблівая алімпіяда для вайскоўцаў, якую хоча «раскруціць» Расія. Каманды краін-удзельніц выконваюць вайсковыя задачы розных відаў. Усяго тых відаў было чатырнаццаць, а самым вядомым і папулярным конкурсам з'яўляецца «Танкавы біятлон», расейскае вынаходніцтва. Уласна з яго і пачалася гісторыя Армейскіх гульняў.

### Такі біятлон

У 2013 годзе расійскія вайскоўцы правялі першыя спаборніцтвы па ім. Спаборніцтва нагадвае звычайны біятлон — толькі замест людзей танкі. Яны павінны пераадолець трасу ў 21 км з разнастайнымі перашкодамі, а таксама выканаць розныя віды стрэльбаў па мішэнях. Выйграе той, хто будзе першым на фінішы.

Відовішчнае спаборніцтва танкаў зрабілася папулярным у Расіі — яго транслююць па тэлебачанні, а каментуе спаборніцтвы знакаміты спартовы каментатар Дзмітрый Губерніеў. Сёлета ў расейцаў з'явілася ідэя правесці поўнамаштабныя вайсковыя гульні, якія прыцягнулі б не толькі танкістаў з розных краін, але і вайсковых спецыялістаў з іншых галін.

### НАТА адмовілася

На Армейскіх гульнях спаборнічалі экіпажы баявых машын пяхоты (БМП-2) (іх праграма называлася, дарэчы, «Суворaўскі націск»), а таксама пілоты, марская пяхота, экіпажы караблёў, сапёры, дэсантнікі, разведчыкі, вайсковыя хімікі, аўтамабілісты, артылерысты, вайсковыя інжынеры і нават вайсковыя кухары.

Гульні праходзілі на 11 палігонах у трох расійскіх вайсковых акругах — Заходняй, Паўднёвай і Цэнтральнай. 57 камандаў прадстаўлялі 17 дзяржаў, сярод якіх, апроч гаспадароў, былі Беларусь, Казахстан, Кітай, Кыргызстан, Ангола, Венесуэла, Кувейт, Азербайджан, Сербія, Арменія, Нікарагуа, Індыя, Таджыкістан, Егіпет, Пакістан і Манголія.

Запрашэнні на турнір былі адпраўленыя 32 дзяржавам, сярод якіх былі і члены НАТА, але яны адмовіліся. Хаця Германія прысутнічала на спаборніцтвах у якасці назіральніка.

Расійская Федэрацыя выставіла свае каманды ва ўсіх чатырнаццаці відах спаборніцтваў, Кітай — у дванаццаці, а Беларусь — у дзевяці. Дарэчы, беларусы не ўдзельнічалі ў танкавым біятлоне. Як паведаміла крыніца «НН», беларускае вайсковае кіраўніцтва засталося незадаволеным папярэднімі выступамі танкавай каманды, таму вырашыла прапусціць гэты сезон, каб лепей падрыхтавацца да наступных, а таксама падрыхтаваць свае танкі для спаборніцтваў.



Беларуская дэлегацыя на Армейскіх гульнях.

### Кувейтцы перакулілі танк

«Танкавы біятлон» сабраў найбольш камандаў-удзельніц — трынаццаць. Яго фіналам, як самай відовішчнай і арганізаванай часткай, закрываліся спаборніцтвы.

Але і тут не абышлося без кур'ёзаў: падчас падрыхтоўчай часткі спаборніцтваў экіпаж з Кувейта перакуліўся ў танку, а літаральна за хвіліну да гэтага машына армянскага экіпажа стала ў час пераадольвання воднай перашкоды — рухавік сапсаваўся, атрымаўшы гідраўдар. Відэа гэтых «касякоў» хутка абляцела сеціва.

### Кітайцы прывезлі сваю тэхніку

Сёлета амаль усе ўдзельнікі танкавага біятлона выступалі на аднолькавых танках — расійскіх Т-72Б3. Толькі кітайская каманда прывезла сваю тэхніку — танкі ZTZ-96A. Дарэчы, кітайцы выступалі на сваіх машынах і ў іншых спаборніцтвах, дзеля чаго прывезлі свае БМП WZ501, а таксама самалёты, бронетранспарцёры, самаходныя колавыя мінамёты-гаўбіцы, цягачы, інжынерную гусенічную бранятэхніку, разведвальныя хімічныя машыны, зенітна-ракетныя комплексы. Кітайцы былі жорстка скіраваныя на перамогу і звысок глядзелі на іншых удзельнікаў, кажуць сведкі. Што цікава, менавіта з-за кітайцаў быў зменены рэгламент конкурсу «Бяспечнае асяроддзе», бо іх машына хімічнай разведкі FZC02B папросту не адпавядала патрабаванням спаборніцтваў.

### Трэцяе месца з трох

Беларуская каманда на Армейскіх міжнародных гульнях таксама выкарыстала тэхніку айчыннай вытворчасці. Напрыклад, цягачы «Волат» МЗКТ-500200 ад Мінскага завода колавых цягачоў, якімі карысталіся артылерысты. Паводле водгукаў, машыны паказалі сябе добра ў нязвыклых умовах. Беларускія лётчыкі таксама выступалі на сваіх самалётах.

Але нельга сказаць, што добрае знаёмства з тэхнікай, на якой праводзіліся спаборніцтвы, і адносная блізкасць Беларусі да палігонаў дамаглі нашым вайскоўцам. Канечне, трэцяе каманднае месца (пасля Расіі і Кітая) сярод 17 краін-удзельніц — вынік неблагі. Аднак толькі ў чатырох з дзевяці конкурсаў, у якіх удзельнічалі нашыя вайскоўцы, ім супрацьстаяла больш за два супернікі. Так, у спаборніцтвах артылерыстаў «Майстры супрацьпаветранага бою» нашыя байцы сталі другімі сярод шасці краін, у «Майстрах артылерыйскага агню» — трэцімі з пяці, а сапёры ў «Бяспечным маршруце» — трэцімі з чатырох. У спаборніцтве лётчыкаў-штурмавікоў нашым дасталося трэцяе месца з наяўных трох.

У астатніх конкурсах сітуацыя яшчэ горшая. На спаборніцтвы аўтамабілістаў, дэсантнікаў, разведчыкаў былі заяўленыя ўсяго па тры краіны-ўдзельніцы. І ні разу беларусы не здолелі падняцца вышэй за трэцюю пазіцыю. Толькі што нашы хімікі падзялілі другое месца з кітайцамі. Дык мо ўяўленне пра беларускае войска як пра адно з наймацнейшых — нацяжка?

### Тролінг ад Шайгу

Падчас цырымоніі закрыцця гульняў міністр абароны Расіі Сяргей Шайгу падкрэсліў іх выключна мірны характар: «Мы чакаем у госці ўсіх. Усіх, хто прыйдзе да нас з мірам, усіх, хто прыйдзе да нас на такія спаборніцтвы. Мы вельмі хацелі б бачыць вас усіх менавіта тут, на гэтых палях спартыўных змаганняў, і ні на якіх іншых». Пасля Крыма і Данбаса гэтыя словы гучаць ці то як тонкая іронія, ці то як тлусты тролінг.

Дарэчы, па выніках турніра было абвешчана, што яго агульная аўдыторыя склала больш за 250 тысяч чалавек. Неблагі паказчык для першага раза. Але не ўражвае, калі параўнаць з затратамі Расіі на арганізацыю спаборніцтваў: гэта вельмі затратная цацка.

**Зміцер Міцкевіч**

## «Дэбілы, б***»

Расійскі **міністр Лаўроў** вылаяўся на сустрэчы з калегам з Саудаўскай Аравіі.

Міністр замежных спраў Расіі быў нечым надзвычай заклапочаны падчас прэс-канферэнцыі з міністрам замежных спраў Саудаўскай Аравіі Адэлем аль-Джубейрам у Маскве 11 жніўня. Пакуль перакладчык тлумачыў, міністр цёр лоб, а з языка ў яго сарвалася «Дэбілы, б..». Расійска-саудаўскія перамовы былі прысвечаныя лёсу Сірыі і Башара Асада. Рыяд настойвае на тым, што Асаду няма месца ў будучай Сірыі. Масква хоча, каб Асад стаў удзельнікам вялікай кааліцыі супраць «Ісламскай дзяржавы».



Падзенне цэнаў на нафту моцна ўдарыла па рэсурсах Расіі і яе кліентаў. Так, сілы, верныя Асаду, адступілі з усіх стратэгічна менш важных раёнаў Сірыі, і цяпер пад іх кантролем застаецца менш за 30% тэрыторыі краіны.

Цяжка сказаць, каму была адрасавана лаянка міністра: саудаўскім шэйхам ці калегам па расійскай дыпламатыі.

**Сяргей Гезгала**

### Цытата



**Лукашэнка: Калі мы недзе падставімся, з намі разбяруцца яшчэ хутчэй, як з Украінай**

«Калі мы не зарыентуемся і дзесьці падставімся, то з намі разбяруцца яшчэ хутчэй, чым з Украінай. А захаваць мы можам, толькі калі мы разам і калі мы забяспечым унутраную стабільнасць», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў ходзе візіту на Мінскі завод колавых цягачоў 14 жніўня.

## Навальны: Прэс-сакратар Пуціна адпачыў на самай дарагой яхце ў свеце

**Мядовы месяц** за 385 тысяч еўра.

Расійскі Фонд па барацьбе з карупцыяй Аляксея Навальнага са спасылкай на «надзейную крыніцу» расказаў пра тое, што прэс-сакратар Пуціна Дзмітрый Пяскоў адпачыў на 88-метровай яхце «Мальтыйскі сокал».

«Мальтыйскі сокал» каштуе 150 млн даляраў, што робіць яго самай дарагой яхтай у свеце нароўні з 92-метровым «Эасам». Арэнда «Сокала» на тыдзень каштуе 385 тысяч еўра — зарплата прэс-сакратара прэзідэнта за тры гады.

Яхта разлічаная на 12 гасцей і чатырох іх служак, мае пастаянны экіпаж у 18 чалавек. Яна была спушчаная на ваду ў 2006 годзе, у 2009-м прададзеная грэчаскай



фінансістцы Алене Амбразіяду.

Гэта не першая сума такіх парадкаў, патрачаная Пясковым. Прынамсі 600 тысяч даляраў было патрачана на вяселле з былой фігурысткай Таццянай Наўкай? і прынамсі 600 тысяч даляраў каштаваў гадзіннік на руцэ Пяскова (які, як сцвярджае ён сам, падарыла яму Наўка). На яхце ён праводзіць мядовы месяц ля берагоў Сардзініі.

**АА**

# Уладзімір Някляеў: І больш сяброў — і менш…

Пайшоў з жыцця мастак Георгій Скрыпнічэнка, а ўслед за ім адляцеў у незваротны вырай акцёр Сяргей Журавель.

Гэта ўжо не барадулінскае, маё пакаленне...

Недзе гадоў дзесяць таму мы з Георгіем прыйшлі на спектакль «Арт» (пастаўлены Пінігіным), у якім Журавель выконваў ролю чалавека, пра якога ягоны сябар казаў: «Ён з тых, хто ніяк не можа змірыцца з сучаснасцю, і чамусьці ганарыцца гэтым».

Калі пасля спектакля сядзелі ў кавярні, Георгій сказаў: «Я таксама...» «Што ты таксама?..» — спытаў Сяргей. «Змірыцца не магу, — адказаў Георгій. — Хоць ганарыцца тут няма чым».

Яны не ганарыліся, але не зміраліся. З пошласцю не зміраліся, халтурай, з сучасным пафігізмам. Прафесійна, высока служылі мастацтву — і спраўдзілі сваё творчае і чалавечае перадвызначэнне.

Дзякуй ім за тое, што я адчуваў, абдымаючы іх пры сустрэчах і развітаннях.

І больш сяброў — і менш…
Такая справа…
І зойме раптам адзінота дых,
І ты вярнуць хацеў бы нават тых,
Каго вяртаць даўно не маеш права.

Як на слупах пажоўклыя аб'явы,
У памяці размыты твары іх,
Былых каханых і сяброў былых;
І іх вяртаць — балючая забава.

Яны прайшлі, як вёсны альбо зімы,
Яны ў трамваях пралятаюць міма,
Ніхто з іх нават не зірне назад,
Ніхто не скажа, хто ў тым вінаваты,
Што ўсе мы неяк прадчуваем страты,
Але ніяк не пазбягаем страт.

**Уладзімір Някляеў**



Сяргей Журавель у ролі Яцака Сапліцы ў «Пану Тадэвушу».

**Сяргей Журавель**
Народны артыст Беларусі Сяргей Журавель памёр у сне, спынілася сэрца. Яму быў 61 год.
Апошняй выдатнай роллю Жураўля быў Яцак Сапліца ў «Пану Тадэвушу» паводле Адама Міцкевіча. У спектаклі «Арт», што ставіць Купалаўскі, ён ужо не сыграе. Сяргей Журавель нарадзіўся ў 1954 у Мінску. У 2011 ён быў уганараваны званнем народнага артыста Беларусі.
Развіталіся з артыстам у панядзелак 17 жніўня, на сцэне Купалаўскага тэатра. Пахавалі яго на Усходніх могілках.

**Георгій Скрыпнічэнка**
Пасля цяжкой хваробы ў Мінску пайшоў з жыцця мастак Георгій Скрыпнічэнка, які ўваходзіў у творчую суполку «Пагоня» пры Саюзе мастакоў. Скрыпнічэнка нарадзіўся ў 1940 ва ўкраінскім Мікалаеве. Скончыў Мінскую мастацкую вучэльню, працаваў ва Усесаюзным НДІ тэхнічнай эстэтыкі.
Самыя вядомыя працы: серыя «Выдатныя дзеячы беларускай культуры», серыя «Мастакі Айчыне», карціны «Мірная зямля», «Вобразы мілыя роднага краю», «Адчуванне Радзімы», «Жакей», «Алегорыя свету», «Прысвячэнне М. Селешчуку», «Скарына на Радзіме», «Як справы ў Чарнобылі?», «Памяркоўны», «Час майго жыцця», «Да 200-годдзя А. Міцкевіча», «Ланцуг жорсткасці», «Гальшаны». Ягоны сын Сяргей — вядомы музыкант, лідар гурту Żygimont Vaza.

# У Камянецкім раёне разабралі царкву — помнік архітэктуры

Абаронцы помнікаў баяцца, што на яе месцы паставяць новую, у маскоўскім стылі.

У сецiве з'явіліся фота раскіданай Мікалаеўскай царквы ў вёсцы Малыя Мурыны Камянецкага раёна. Наколькі нечаканым было гэтае раскіданне?

Пра гэта пытаем у вернікаў з суседняй вёскі Вялікія Мурыны. Жанчына, што перабірае цыбулю на сваім падворку, распавядае, што наведвала царкву з дзяцінства і што «цэрква вэльмы старая». Па словах жанчыны, спачатку культавую пабудову хацелі парамантаваць, але, калі знялі шалёўку, аказалася: усё дрэва пад ёй гнілое. Ажно тры дзесяцігоддзі царква служыла адрынай у тутэйшым калгасе, пры гэтым была часткова раскрытая.

На будоўлі працуе міні-брыгада будаўнікоў з Кобрына, і брыгадзір з чыстым сумленнем паказвае справаздачу па выніках абмераў і даследавання царквы, выкананую таварыствам з абмежаванай адказнасцю «РэстаўрацыяІнвест». На здымках справаздачы добра відаць, што царква сапраўды была ў стане, небяспечным для знаходжання ў ёй людзей. Абвіслая столь, скрасныя дзіркі пад вокнамі ў гнілым брусе, дрэва паточанае шашалем.

Адказная за стан помнікаў архітэктуры ў раённым аддзеле



культуры Ірына Рэзнічук запэўнівае, што не дапусціла б, каб царкву XVIII стагоддзя проста ўзялі б ды разабралі без узгаднення з Мінкультам і без праекта на новы будынак — копію старога. Метадыст разумее, што наша рэстаўрацыя — гэта не рэстаўрацыя ў Польшчы, дзе вывучаюць нават хімічны склад фарбаў. Але ва ўмовах, калі трэба тэрмінова ратаваць будынак ад абрушэння — а менавіта так стаяла пытанне, — прыходзілася выбіраць меншае зло.

Настаяцель храма айцец Валянцін зазначае, што новая царква будзе пабудавана па старым праекце, але разам з тым дадае, што будуць дабудаваны рызніца і панамарка.

Святар кажа, што яму нялёгка было адважыцца разбіраць царкву, таму да апошняга ён спадзяваўся толькі на рамонт. Аднак пасля таго, як у ёй пабывалі работнікі МНС і папярэдзілі, што знаходзіцца ў ёй небяспечна для жыцця, бацюшка ўсё ж пераканаўся, што са старым дрэвам нічога не зробіш.

Ён, дарэчы, называе годам заснавання царквы не 1760, як усюды пазначана, а 1536. За гэты час будынак яўна рэстаўраваўся не аднойчы, і ўжо цяжка казаць, які выгляд яна мела першапачаткова. Айцец Валянцін трымае дошку з інфармацыяй пра адну з рэстаўрацый царквы ў 1879 годзе.

На пытанне, што ж аўтэнтычнага застанецца ад Мікалаеўскай царквы ў новым выкананні, айцец Валянцін адказвае, што, акрамя старой архітэктуры, збіраецца часткова ўжывіць у новы зруб старыя брусы. Ляжаць накрытымі ля будоўлі і бярвёны з царкоўнага алтара. Іх таксама тут не збіраюцца выкідаць. У бацюшкі ёсць задума пачысціць гэтае дрэва і выставіць пасля ўнутры царквы, каб наведнікам і прыхаджанам была відавочнай даўняя гісторыя храма.

Дарэчы, славу па наваколлі Мікалаеўскай царкве прыносіла не толькі старажаытнасць, але найперш ікона Мікалая Цудатворца. Лічыцца, што яна самаабнавілася пасля таго, як храм вярнулі вернікам. Цяпер ікона знаходзіцца ў Відамлі, але, як запэўнівае святар, адразу ж вернецца пасля заканчэння рэканструкцыі.

**Паводле радыё «Рацыя»**

Кіно

# Курэйчык зняў трагікамедыю пра аўтаслесараў

З Кулінковічам у галоўнай ролі.

Здымкі і мантаж стужкі «ГараШ» завершаныя, прэм'ера запланаваная на восень.

Фільм створаны незалежна ад дзяржаўных крыніц фінансавання, ён абышоўся стваральнікам усяго ў пяць тысяч даляраў.

«Салодзенькае, гламурнае кіно і серыялы выдатна робяць і без нас расейцы і амерыканцы, —мяркуе Курэйчык. — А беларусам пара сумленна паглядзець у люстэрка і пашукаць адказ, што ж мы гэта за дзіўная нацыя такая, з савецкай сімволікай, саўковай архітэктурай, саўковым заканадаўствам, культурай, эстэтыкай, гумарам, «Дажынкамі», з недабітай нацыянальнай інтэлігенцыяй і вечным нявырашаным выбарам: быць часткай «рускага свету» ці цывілізаванай еўрапейскай прасторы».

Сюжэт фільма: малады хлопец, які вярнуўся з ЗША, трапляе на працу ў аўтамайстэрню ў мінскія Шабаны. Каларытнага аўтамайстра ў фільме іграе музыка Аляксандр Кулінковіч, лідар гурту *Neuro Dubel*.

**АА**

Віншуем!

# Генералу айчыннага рока Ігару Варашкевічу — 55

Мы прасілі яго пра інтэрв'ю да дня нараджэння. Адмовіўся — мусіў ехаць дапамагаць на радзіму.

Гэты сціплы чалавек, які вельмі цёпла ставіцца да сваіх родных, — адзін з пачынальнікаў беларускага року, лідар гурту «Крама».

Ігар Варашкевіч 15 жніўня адзначыў 55-годдзе. «Ты помніш, Стэфка?»



Музыка святкаваў разам з сябрамі ў Баранавічах, каля роднай хаты, пад яблынямі. А 30 жніўня адсвяткуе з прыхільнікамі — на вялікім канцэрце гурту «Крама» ў рэстаране «Друзья».

Варашкевіч вучыўся на мастака ў Тэатральна-мастацкім інстытуце — той унікальнай кузні беларускай сапраўды нацыянальнай артыстычнай эліты. Але замест мастака стаў спеваком. У 1989 ягоная «Бонда» распалася, і Варашкевіч сышоў у «Рокіс», які ў 1991 змяніў назву на «Краму».

Летась «Крама» адзначыла 25-годдзе выхадам новага альбома «Белая вада».

**Сяргей Мікулевіч**

# Леаніду Галубовічу — 65

Ён быў электрыкам — і стаў пісаць выдатныя вершы.

Моцна піў — і завязаў.

Перастаў вершаваць — стаў крытыкам.

Працаваў у эпахальнай для беларускай літаратуры «Крыніцы» пад рэдактарствам Някляева поплеч з Разанавым і Арловым.

12 жніўня Леанід Галубовіч адсвяткаваў 65-годдзе. Галубовіч нарадзіўся 12 жніўня 1950 у вёсцы Вароніна ў Клецкім раёне. Скончыў ПТВ у Слуцку. У 1984 вясковы электрык выдае зборнік вершаў «Таемнасць агню», за які яго прымаюць у Саюз пісьменнікаў. У тыя часу абыкага за абы-што ў СП не прымалі!

Пасля гэтага ён вырваўся на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, працаваў на Беларускім тэлебачанні. У бібліятэках можна знайсці ягоныя кнігі



«Споведзь бяссоннай душы» (1989), «Бусел без гнязда» (1989), «Таемнасць споведзі» (1993), «Заложнік цемры» (1994). У 2000 з'явіліся «апошнія вершы леаніда галубовіча» (спецыяльна так сама знішчальна, з малых літар), пасля чаго з пазвій ён «завязаў». Але ў гісторыі беларускай літаратуры застанецца.

**Сяргей Гезгала**

Дзе варта быць

**На «Камяніцы» выступяць «Стары Ольса», *Vuraj* і *Znich* і замежныя госці**

Традыцыйны фольк-фестываль «Камяніца» пройдзе ў Музеі народнай архітэктуры 5 верасня. Дарослы квіток каштуе 100 тысяч, дзіцячы — 50, дашкольнікі і наведнікі ў поўным (ад абутку да галаўнога ўбору) нацыянальным строі змогуць наведаць фэст бясплатна.

Асновай праграмы стануць беларусы: «Стары Ольса», «Альтанка», «Ягорава гара», *Vuraj* і *Znich*. Упершыню на «Камяніцы» выступіць прадстаўнік Эстоніі, фолк-гурт *Trad Attack!*, які ўжо стаў сенсацыяй на радзіме. Польшчу будзе прадстаўляць калектыў *Dzikie Jabłka*, які спалучае народныя матэрыялы з афрыканскімі рытмамі. Украіну — гарачыя фолк-рокеры «Дрымба Да Дзыга». На фэсце будзе і другая сцэна для аматараў і кірмаш нацыянальнай культуры з народнымі рамёствамі, танцамі, гульнямі і выставамі. Музыкаў і рамеснікаў просяць рэгістравацца да 25 жніўня.

# «Былыя падначаленыя прыйшлі да ўлады і знішчылі тое, што я ствараў трыццаць гадоў»

Да саракавіны смерці выдатнага рэстаўратара **Сяргея Друшчыца**.

15 ліпеня памёр беларускі рэстаўратар Сяргей Друшчыц. Фактычна — чалавек-эпоха, які кіраваў ледзь не ўсімі самымі важнымі нацыянальнымі рэстаўрацыйнымі праектамі. З ім спрачаліся. Рэстаўрацыя наогул надзвычай канфліктагенная дзейнасць. Але фактычна гэта ён быў адным са стваральнікаў самога асяродка беларускіх рэстаўратараў.

Я сустрэўся з ім напрыканцы мінулага верасня, каб узяць інтэрв'ю для даследавання сацыяльнага патэнцыялу праграмы «Замкі Беларусі». Чалавек з неймавернай энергетыкай. Як аказалася, гэта было ледзь не апошняе яго інтэрв'ю. Прапаную фрагменты гутаркі.



### Рэстаўратары і ўлада

Мая асабістая задача па жыцці — рабіць рэстаўрацыю ў рэальных умовах.

Я прыйшоў сюды, калі скончыў універсітэт, мяне размеркавалі ў «Белдзяржпраект». Пасадзілі спачатку на праектаванне буйнапанэльных дамоў. Балкончыкі маляваў і дастаткова хутка адтуль сышоў. Нават працоўную кніжку не забраў. А потым так атрымалася, што была створана рэстаўрацыйная арганізацыя. Спачатку гэта быў проста гурток аматараў, але мы сталі на ногі. Мелі кантакты з усімі суседзямі — не толькі па СССР...

Складвалася па-рознаму. Найгоршыя гады — так званых пераменаў, дзевяностыя, калі частка маіх былых супрацоўнікаў (я даволі рана стаў кіраўніком) прыйшла да ўлады. І яны знішчылі тое, што я трыццаць гадоў ствараў. Паза́ліхвацку, гучна, пакінуўшы руіны. Пачынаць нанова давялося з нуля...

Калісьці мяне ледзь не выгналі з працы за дамок Ваньковіча. Мы распрацавалі дакументацыю, і ўжо фундамент быў. У гэты час таленавіты архітэктар Левін у «Мінскпраекце» запраектаваў рэканструкцыю часткі горада з праменаднай лесвіцай да Свіслачы, пачынаючы ад «саркафага» (гэта Палац Рэспублікі) і да самай ракі. Дом Ваньковічаў ім, натуральна, перашкаджаў [раней гэтую задуму прыпісвалі архітэктару Грыгор'еву, а не Левіну. — Рэд.]. Сакратарам тады быў Машэраў. Я, як кіраўнік «Белрэстаўрацыі», мог з ім сустрэцца. Ён наогул быў даступны чалавек. Мы паспрабавалі яго пераконваць, а ён перадаручыў праблему спецыялістам. Мяне выклікалі на Бюро ЦК і прад'явілі прэтэнзію, што я няправільна раблю рэстаўрацыю дома Ваньковічаў. Я ж па маладосці ўпёрся, пачаў даказваць. Спачатку хацелі даць проста вымову. Скончылася строгай вымовай з занясеннем ва ўліковую картку. Потым праз год яе знялі. Не ведаю, ці звязана, але ў мяне пасля быў інфаркт. А што вы хочаце? Мой дзядзька — адзін з заснавальнікаў Інбелкульта, Васіль Данілавіч, расстраляны, хутчэй за ўсё ў Курапатах. Таму такое трапяткое стаўленне было нават да вымоваў...

### Рэстаўрацыя — гэта гаспадарчая галіна

Рэстаўрацыя — гэта мастацтва ці навука? Глядзіце, рэстаўрацыя з лаціны — гэта ж аднаўленне, папаўненне. Я б сказаў, што гэта філасофія мыслення, у поўным сэнсе слова. Са мной недзе дзве з паловай тысячы чалавек працавалі па Беларусі, і калі я бачыў абыякавае стаўленне — адразу звальняў людзей. Хаця і крыўдзіліся. Але я ўпэўнены, што яны нязда́тныя для нашай работы. Нават просты муляр — калі не мае стаўлення свайго да руіны, ён не ўгледзіць нюансаў.

У Нясвіжы бачна было адразу, які аб'ём работы чакае. Першае, што мы зрабілі — ільготны набор у ВНУ і вучэльні нясвіжскіх школьнікаў. У Інстытут культуры, у БНТУ. Гэта сярэдзіна 90-х, каб яны вярнуліся і працягнулі працу. Шмат хто і цяпер працуе ў Нясвіжы, хаця не ўсе.

У нас людзі ў Рым ездзяць на павышэнне кваліфікацыі, не таму што там нейкія звышведы атрымліваюць, але для іх гэта лад жыцця. Так, на працах у Нясвіжы некаторыя майстры маглі 3—4 тыс. еўра зарабляць. Хоць гэта не стабільны заробак. Набылі машыны, хтосьці нават жыллё ў Мінску, і — гэта шчасце. Але для нашай прафесіі гэта наогул неўласціва...

### Што галоўнае ў рэстаўрацыі?

У рэстаўрацыі тры галоўныя словы — захаваць усё сапраўднае. Захаваць аўтэнтыку — гэта методыка. І далей ужо пытанне тэхналогіі, магчымасцяў. Калі няма магчымасцяў, лепш адкласці пытанне, аддаць яго нашчадкам. Але ў гэтым вельмі няпроста пераканаць тых, хто мае ўладу. Калі ўжо пачалі працы ў Нясвіжы, на мяне пачалі ціснуць. З цяжкасцю ўдалося дабіцца, каб на другім паверсе арсенала не рабілі рэканструкцыі, хоць мы нават і ведалі, што там было. Зрабілі выставачную залу — нармальны прыём...

У Навагрудку мы забілі болей за 100 сваяў, каб зрабіць пляцоўку, узмацніць грунт, бо пад замкам крыніцы. Бо вежа больш за 100 гадоў была ў аварыйным стане і пры любой непагодзе магла абрынуцца. Ну нам патрэбная ж прыгожая руіна! А тое, што там пад ёй пляцоўка з маналіта ўжо цяпер, вельмі складаная канструкцыя, з металічнымі паясамі — на гэта наўрад ці нехта зверне ўвагу...

У Навагрудку функцыю аб'екта вызначаў я, але не таму што проста захацелася. Я паглядзеў аналагі такіх замкаў: Меднікі, Дубінкі, Чэрск, яшчэ шэраг. Што кансервацыя патрэбная — няма пытанняў! Мусіць быць трывалая руіна, гэта таксама зразумела, бо вобраз быў апеты яшчэ Міцкевічам. Але адначасова, калі толькі руіну пакінем — жыццё там не будзе. А будуць мясцовыя хуліганьё — мы ўжо цяпер пастаянна з рова дастаем камяні, што склалі ля вежы. Гаспадар мусіць быць. Таму вежу Шчытоўку, у адрозненне ад іншых, я прапанаваў аднавіць у межах нашых звестак, прычым нават не па малюнках, а выключна па фотаздымках, якіх у нас вялікая колькасць. Часткова адновім, з уладкаваннем музейнай экспазіцыі філіяла краязнаўчага музея. Не мая ідэя, а так наогул робяць. Дырэктар музея мяне ж у першую чаргу і падтрымала.

**Запісаў Сцяпан Стурэйка**

# Чаму Расія не змагла захапіць Тбілісі

Былы міністр абароны Грузіі Дзмітрый Шашкін **дзеліцца некаторым дэталямі** расійска-грузінскай вайны 2008 года і ўказвае на канкрэтныя крокі, зробленыя тады Злучанымі Штатамі Амерыкі.



«Ніколі б не падумаў, што пасля 2008 года ў Грузіі будуць людзі, якія публічна будуць апраўдаць Расію за гэтую вайну. Але праўду кажучы: ніколі не кажы ніколі. З разумнымі тварамі гэтыя ўблюдкі прапаведуюць, што, аказваецца, Расія праявіла добрую волю і ў 2008 годзе не ўзяла Тбілісі, і за гэта, аказваецца, мы ёй павінны быць удзячныя.

Многія не ведаюць, што наша брыгада, якая знаходзілася ў Іраку, вярнулася ў Тбілісі на амерыканскіх самалётах, што ва ўмовах вайны было прамой ваеннай падтрымкай з боку ЗША.

Многія не ведаюць, што Тбіліскі аэрапорт Расія не змагла бамбаваць таму, што на ўзлётных палосах стаялі амерыканскія «Геркулесы» (грузавыя самалёты)

Многія не ведаюць, што флагман 5-га флоту, які ўвайшоў у Чорнае мора, сваімі радарамі кантраляваў паветраную прастору Тбілісі-Масква-Валгаград і яго ваенны патэнцыял у 8 разоў перавышаў патэнцыял Чарнаморскага флоту Расіі.

Многія не ведаюць, што «Геркулесы», якія вылецелі з Іарданіі 14 жніўня, суправаджаліся знішчальнікамі.

Многія не ведаюць, што фраза камандуючага знішчальнікамі пра тое, што любая актыўнасць расійскіх самалётаў у грузінскім небе будзе ўспрынятая як напад на ЗША, закрыла паветраную прастору Грузіі для расійскіх самалётаў.

Многія не ведаюць, што «гуманітарнай місіяй ЗША ў Грузіі» афіцыйна камандаваў міністр абароны ЗША Гейтс.

У той жа час многія не ведаюць, што на ўварванне ў Грузію і забойства грузінаў расійскую армію блаславіў патрыярх «адзінавернай» краіны...» — піша Дзмітрый Шашкін.



Расійскія салдаты фатаграфуюцца ля ўказальніка на Тбілісі.

Акурат сем гадоў прайшло з моманту расійскага ўварвання ў Грузію.

apsny.ge

Апавяданне. Піша Мікіта Волкаў.

# Урок рэаніматалогіі

Надакучлівы званок тэлефона пабудзіў Максіма, змушаючы яго збірацца на цягнік. Хлопец спачатку прыняў яго за будзільнік, але тэлефон званіў і званіў. З кухні, дзе ўжо снедалі бацькі, даносіўся галаслівы, нязвыклы для шэрага ранку, шум. Адзеючы кашулю, хлопец пасунуўся да пярэдняга пакоя. Ён убачыў, як маці прыціснула слухаўку між плечуком і вухам, адначасова памешваючы нешта ў рондалі. Яна гаварыла хутка: «Мы прыедзем да цябе сёння. Не... пачакай... заўтра. Ты толькі не перажывай. Добра, што выклікаў хуткую. Мо Максім пад'ехаў бы..Зараз... адна хвіля...

— Максім, у якой бальніцы сёння твае заняткі?

— У N, — не задумваючыся, адказаў сын.

Маці, пераклаўшы трубку да другога вуха, каб лыкнуць кавы, працягвала:

— У Максімкі заняткі будуць сёння ў той бальніцы, куды цябе, напэўна, павязуць. І мінулы раз завезлі туды ж. Мы з Толем не зможам прыехаць. У мяне праверка на працы, а Толя ідзе ў рэйс. Непярэлійкі адны. Добра, папраўляйся, татачка. Максім пад'едзе.

Маці паклала слухаўку, дамешваючы аўсянку на пліце. Бацька сядзеў з філіжанкай кавы, намазваючы скібку хлеба маслам.

— Што здарылася? Дзед у бальніцы? — запытаўся хлопец.

— Пакуль не. Але, пэўна, павязуць, як і ў мінулы раз. У яго сардэчны прыступ, як звычайна. Ты ж ведаеш дзеда. Вечна хуткую выклікае, усе пігулкі папакупляў. Табою ён добра вучаны. Пераведаеш яго сёння, гасцінец які занясеш. Усё, я мушу бегчы, аўсянка на фаерцы, кава ў кававарцы. Не забудзь усё павыключаць і замкнуць.

Маці знікла, пакінуўшы за сабою густы пах парфумы. За ёю, спехам дапіваючы каву, збіраўся бацька. Ён, абуты на адну нагу, шукаў свой другі чаравік, які знесла ў залу котка.

— Вось падла, — капануў яе нагой бацька, апранаючы плашч.

Ён моўчкі пераглядаў змесціва свайго дыпламата.

— Нешта наш дзед зусім расклеіўся, трэці раз запар хуткая забірае. Хоць, каб сапраўды яму што было сур'ёзнае, даўно памёр бы. Гэты ты нешта са сваім інстытутам павыдумляў. Франтавікоў халера ніякая не бярэ. Гэта, мусіць, Віталік там заліваецца. Але ўсё будзе добра, — адрэзаў бацька і зачыніў дзверы.

* * *

Праз паўгадзіны Максім плёўся на паўстанак. Ён, студэнт трэцяга курса інстытута, заўсёды трывожыўся пра сваякоў, калі ім нешта балела. Бацьку пастаянна накіроўваў здаваць аналізы на халестэрын і «цукар». Маці ўпрошваў схадзіць на УГД (УЗІ). Аднойчы прадухіліў страшныя наступствы для яе, угледзеўшы на носе барадаўку. Яна аказалася злаякаснай, і своечасовае выдаленне ўратавала маці жыццё. Але хлопец зацыкліваўся на медыцыне настолькі, што нават не заўважыў, як змянілася кола яго блізкіх сяброў, у якім ужо не было ніводнага нямедыка. І сам ён стаў больш хваравітым, амаль штогод спажываў антыбіётыкі.

Гады навучання ва ўніверсітэце мянялі ўсіх студэнтаў. Хтосьці пераставаў палохацца хваробаў і смерці, зразумеўшы непазбежнасць апошніх; хтосьці «кідаўся ва ўсе цяжкія» — у ёгу і ўсходнюю філасофію. Найбольш старанныя, былыя школьныя «батанікі», прымяралі кожны сімптом на сябе, «перахварэўшы» падчас універа на ўсё. І Максіма гэта не абмінула. Яго бясконцыя медычныя размовы мог трываць толькі адзін чалавек, яго дзед Васіль. Дзед жыў у Мінску з сынам Віталікам. Віталік — сын ад першага шлюбу, зводны брат маці, пасяліўся ў дзеда гадоў дзесяць таму. Ён — афганец, нідзе не працаваў і амаль штодня піў.

...Праз свой роздум Максім не надта спяшаўся і не глядзеў на гадзіннік.

* * *

Бітаю сцежкаю, сярод маладога ельніку, сунуліся сонныя і абыякавыя людзі. Больш сталыя, паважныя, у чорных гарнітурах, абганялі маладзейшых. Кабеты з торбамі і бабы з вазкамі цягнуліся ўсярэдзіне. Студэнты з навушнікамі ўвушшу засяроджана ішлі нацянькі, каб скараціць шлях па імшастым куп'і, стараючыся не ўступіць у гразкае балота ўчорашніх лужын. Людзі перыферыйнага горада спяшаліся на ранішнюю электрычку да сталіцы. Недзе ззаду плёўся Максім. Нарэшце ўзлесак скончыўся, і перад вачыма адкрыўся паўстанак. Людзі стрымгалоў мкнулі, каб заняць чаргу раней. Да хуткаснай электрычкі на Мінск заставалася пяць хвілін. Больш нахабныя давалі грошы пярэднім у чарзе, каб тыя іх выручылі, за што былі увобміргаблітыя славеснай гразёй і нават пагрозамі фізічнай расправы. Максім купіць білет ужо не меў шанцаў.

Хлопец сядзеў у вагоне. Чакаў новых уражанняў, ад цікавага новага прадмета анестэзіялогіі. Не пакідала і трывога пра дзеда. Пэўна, нічога сур'ёзнага быць не магло. Звычайны сардэчны прыступ. Максім нястомна дзёўб дзеду, што яму канечне трэба штодня ўжываць прэпараты, нудна і доўга тлумачыў, якія ад ціску, а якія ад стэнакардыі. Настойваў, што любы пякучы загрудзінны боль, які не здымаецца нітрагліцэрынай, мусіць быць нагодай да выкліку хуткай. А стары, які штодня енчыў, што хоча памерці, у моманты прыступаў пераставаў храбрыцца, прасіў аб помачы і пазіраў спалоханымі вачыма. І пасля таго, як хуткая ці сам унук (які, дарэчы, трохі вучыўся на дзеду, скалоўшы яму ўсе вены) купіравалі прыступ, дзед гучна прамаўляў:

— Я яшчэ два вякі жыцьму. А гэтыя падлы мне ўсе жылля спароліі. Цяпер усе дактары-прафесары, — гаварыў дзед і пагражаў нейкай невядомай сіле ў паветры кулаком.

Ён быў вельмі няўдзячным пацыентам: прапускаў прыём прэпаратаў і піў іх толькі на сваё вострыя сімптомы. Максім злаваў, і сёння збіраўся яму пра гэта расказаць. Добра, што анестэзіялогія будзе доўжыцца два тыдні ў тым самым шпіталі, куды часта клалі дзеда. Ён будзе заходзіць да яго штодня.

Максіма ўжо зацята кратала за плечы праваярльніца білетаў. Не могучы прад'явіць анічога, ён мусіў заплаціць штраф...

* * *

Сябра-аднагрупнік чакаў Максіма ля ўвахода ў бальніцу, і яны пабеглі па сходах наверх. Мінулі буфет, краму з іконамі (чамусьці ў кожнай бальніцы яны былі), увайшлі на трэці паверх. Заняткі пачаліся ўжо даўно. Выкладчык, як прынята ў панядзелкі, павёў вучняў на галоўны абыход. Абыход быў вялікі. На ім прысутнічала ганаровая дэлегацыя: прадстаўнік ад кафедры, загадчык ці прафесар, загадчыкі анестэзіялагічнага, хірургічнага і тэрапеўтычнага аддзялення, палатныя дактары, клінардынатары, студэнты, меншыя і большыя. Дактары малыя і вялікія, старыя і маладыя. Розных тытулаў і званняў. Перад уваходам у рэанімацыю стаяла варта з медсёстраў-практыкантак. Яны сачылі за парадкам: студэнты без адпаведнага дрэскоду ўвайсці ў рэанімацыю не маглі. Кожны мусіў мець на галаве шапачку, на роце маску, а паверх зменнага абутку яшчэ і бахілы. Загадчык аддзялення, высокая рудая жанчына, якая тварам аддалена нагадвала саву, іх пад'юджвала:

— Клапаціцеся найперш аб сабе. У рэанімацыі поўна ўсякіх пацыентаў, у тым ліку з актыўным туберкулёзам. Дый наогул, хочаце, каб валасы мелі пах мачы і гною, прыходзьце без шапачак.

Дэлегацыя ўвайшла ў першую палату. Медыкаў было так шмат, што не ўсе змяшчаліся ў ёй. Многія студэнты чакалі на калідоры: не ўсе хацелі звязаць сваё жыццё з рэаніматалогіяй, а камусьці было і страшна. Але ахвотных паглядзець было болей, перавага аддавалася апошняму курсу, які спецыялізаваўся па анестэзіялогіі і цяпер праходзіў субардынатуру. Яны дапамагалі дактарам: падключалі пацыентаў да наркозных апаратаў, маніктораў, апаратаў штучнай вентыляцыі лёгкіх, праводзілі інтубацыю трахеі*. Праўда, спачатку ім давалі практыкавацца толькі на памерлых, каб набіць руку.

Максім, студэнт малодшых курсаў, не ўсё разумеў. Ён угледзеўся ў хворых, якія ляжалі на койках нерухома, падключаныя да апаратаў і маніктораў. Прыслухоўваўся да урачоў і намагаўся зразумець сутнасць іх дакладаў. Глядзеў на аблічны дактароў. Сярод усіх яму неяк падабаўся загадчык аддзялення рэаніматалогіі. Гэта быў высокі бялявы мужчына з хвалістымі валасамі, зачасанымі назад. Ён нагадваў Максіму сярэднявечнага рыцара, і хлопец дамалёўваў у сваім уяўленні каня і даспехі. Незвычайным было і тое, што доктар насіў пенснэ на ланцужку — гэткая старасвецкасць дадавала яму таямнічасці і з'яўлялася таўром таемнай мудрасці. Уласна, ён стаяў каля ложка хворага старога і дакладаў хірургу і загадчыку тэрапіі аб стане хворага:

— Пацыент Мурашка 1934 г.н., другія суткі пасля аперацыі Гартмана, з прычыны раку тоўстай кішкі...

Хірург хутка гартаў гісторыю хваробы, шукаючы адпаведныя аналізы. «Жанчына-сава», неяк пахітваючы галавою, спрабавала зазірнуць у гісторыю, што была ў руках хірурга.

Максім пазіраў на хворага. Ён быў у прытомнасці. Дактары мацалі па чарзе каластому, пальпавалі жывот на прадмет магчымых інфільтратаў. Пыталіся пра здароўе хворага, і нарэшце кожны прысутны слухаў жывот, каб учуць перыстальтыку...

Яны ішлі хутка. Над кожным пацыентам зачытвалі лабараторныя аналізы, дадзеныя даследаванняў. Вырашалі, каго пераводзіць у профільныя аддзяленні, а каго яшчэ пакінуць у рэанімацыі.

Пацыентаў было многа, хтосьці быў у стане алкагольнага дылірыя, нехта пакутаваў на панкрэатыт, некаторыя былі тут заўсёднікамі. А старыя бабкі, якіх сваякі спіхвалі ў бальніцу і не хацелі нізавошта забіраць дамоў, увогуле былі адхіленыя дактарамі.

— Гэтая дама ізноў тут. Ну, з ёй усё ясна, — казала «жанчына-сава». — Такое дарагое койкамесца займае, і незразумела, чаму ў рэанімацыі.

— У яе гэтым разам мезатрамбоз. Днямі рабілі лапарацэнтэз, кішкі чорныя, — адказваў хірург.

— Дык нашто ў рэанімацыю адпраўляць? — Сава не суцішалася. — Яна магла і дома адысці да праайцоў, сярод блізкіх і родных!..

Шляхетны рэаніматолаг казаў:

— Калегі, я чую перыстальтыку. У яе ёсць надзея.

Студэнты пазіралі няўцямна, перапіхваліся, каб падысці і тыцнуць на жывот бабкі свой стэтаскоп. Хірургі пасмейваліся.

Яны падышлі да наступнага пацыента.

— Пацыент Улаховіч, паступіў толькі што з аддзялення з клінікай леважалудачкавай недастатковасці. На кардыяграмах абшырны інфаркт. Пацыент задыхаецца, трэба яшчэ рабіць рэнтген грудной клеткі пасля. Бо макрота таксама шэрая.

— Ды дзядок не жылец, яўна, — казаў палатны кардыёлаг.

Максім пазнаў дзеда. Хлопца ўсяго сціснула, адняло мову. Дзедаў твар навастрыўся і неяк пацямнеў. Унук намагаўся нешта сказаць, да некага звярнуцца. І ва ўсіх кішэнях адчайна шнарыў, шукаючы тэлефон. Трэба было званіць, і хутчэй.

— Ну, што я магу сказаць, — гаварыла жанчына-сава, водзячы пальцам па крывой лініі кардыяграмы. Я хачу сказаць... я мушу сказаць, — так і не заканчваючы сказ, працягвала яна.

— Дзе мае студэнты? Глядзіце, што ў пацыента.

Студэнты адзін за адным разбіралі кардыяграмы. Перашэптваліся, раіліся, некаторыя торкалі ў тэлефон, і іх увагу цяжка было прыцягнуць.

—Надзеі ўвогуле мала, — казаў рэаніматолаг.

— Працягвайце тэрапію, няхай будзе што будзе.

Сонм дактароў пайшоў далей. Максім пацягнуўся за ўсімі, яму няёмка было сказаць, што гэта ягоны дзед. Пацыент Улаховіч ужо быў за спінамі, увага дактароў была скіраваная на тоўстага астматыка. Максім больш не мог трываць, ён прабіраўся сярод студэнтаў і дактароў да выхаду. Яму не ставала паветра, і трэба было тэрмінова званіць, але рэзкі рух шляхетнага рэаніматолага яго спыніў. Доктар убачыў на маніторы, што ў дзеда спынілася сэрца. Ён сігануў назад і пачаў націскаць на грудную клетку выпрастанымі рукамі. Медсястра кінулася за ім.

— Пакіньце, пакіньце, Барысавіч. У аддзяленнях — чарга з пацыентаў. Маладзейшыя і здаравейшыя. Яны чакаюць, — прамаўляла грубая медсястра і, здавалася, гатовая была ўчапіцца за доктаравы рукі.

— Але я мушу... Я абавязаны, — казаў высокі і зграбны рэаніматолаг, з белымі валасамі, крыху хвалістымі, зачасанымі назад. Высакародныя, нардычныя, правільныя рысы твару спалучаліся з тонкай меладычнасцю голаса, выдавалі пэўную інтэлігентую мяккасць, бязмерна слабую супроць вульгарнай сілы медсястры.

— Не мучце дзеда, ён усё адно памрэ. А тут столькі студэнтаў, павучацца інтубіраваць заадно.

Вочы малодых дактароў успыхнулі. Ужо ніхто не глядзеў на астматыка.

— Я павінен. Хтосьці са студэнтаў, бярыце мяшок для штучнага дыхання, — мовіў доктар, масажуючы пацыенту сэрца.

— Які мяшок? Паглядзіце на дзедавы ногі: яны чорныя, — медсястра падвышала голас.

— Ладна. Так, можа, і лепей.

Рэаніматолаг з сашчэпленымі далонямі адыходзіў ад ложка, саступаючы дарогу медсястры, якая ўвішна адключала дзядка ад анестэзіялагічнага рыштунку.

Чарга шасцікурснікаў выстраілася ў выгінастую каляю. Сярод іх былі не толькі студэнты, былі клінічныя ардынатары, якія прыехалі ў Мінск вучыцца. Самымі апошнімі стаялі маладыя дактары: у дзеда была складаная будова гартані, і гэта яшчэ адзін практычны навык. Запал студэнтаў перабіў раздражнёны воклік медсястры:

— Калі труп у палаце, дык вазьмі заслону і загарадзіся ад астатніх пацыентаў, а то настрыўся ўжо! — казала яна першаму студэнту ў чарзе.

Пакуль хлопец хадзіў у кут па заслону, яго чарга прапала. Ён паставіў загародку і звярнуўся да Максіма:

— Малы, мо хочаш паўдзельнічаць?

Юныя медыкі інтубіравалі, прытомныя пацыенты трывожна пераглядаліся.

Максім не ведаў, што рабіць. Можна было крычма крычаць на ўсю рэанімацыю, што гэта ягоны дзед, ці, стаўшы ў канец чаргі, чакаць, пакуль яна скончыцца, каб развітацца з ім. А можна было ціха сысці і паведаміць маці жалобную вестку.

Але ў любым выпадку, яму, як прадстаўніку самай марудней нацыі ў свеце, варта было падумаць.

*Інтубацыя трахеі — вельмі важны практычны навык для падрыхтоўкі доктара-рэаніматолага, праводзіцца бадай перад любымі аперацыямі, калі патрэбны наркоз ці агульная анестэзія. Сутнасць прыёму ў тым, каб уставіць адмысловую трубку ў трахею



**Мікіта Волкаў**

Нарадзіўся ў 1992 у Барысаве. Скончыў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт.






Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел 14 жніўня правёў асвячэнне крыжа на купал Юбілейнага дома — гістарычнага будынка на праспекце Незалежнасці каля Кастрычніцкай плошчы. Да рэвалюцыі ў гэтым Архіерэйскім доме размяшчаўся царкоўна-археалагічны музей і праводзіліся сходы духавенства Мінска. У ліпені—жніўні 1918 тут размяшчалася Рада БНР.




Мужчыну са здымка «Х.. родине» («НН» №30—2015) зрабілі новае фота. Кіроўца сельгаспрадпрыемства «Савецкая Беларусь» першы перавёз тысячу тон збожжа. Але фота хлебаробу зрабілі няўдалае. На гэта не звярнулі ўвагу ні фатограф, ні рэдактар рагачоўскай «раёнкі», але заўважылі інтэрнэт-карыстальнікі. Праз тыдзень перадавіка перафатаграфавалі ўжо ў правільным ракурсе, для гэтага нават уручылі новы букет.




Расійскі часопіс *Maxim* з нагоды вяселля прэс-сакратара Пуціна Дзмітрыя Пяскова і фігурысткі Таццяны Наўкі апублікаваў 7 жніўня архіўны эратычны фотасэт апошняй. Але ўжо 11 жніўня публікацыя была выдаленая.



На прэзідэнта Турцыі падчас адкрыцця мячэці села птушка рабок. Выпадак здарыўся 14 жніўня, калі Рэджэп Таіп Эрдаган прыбыў на ўрачыстае адкрыццё новай мячэці, пабудаванай на вяршыні гары Кібла ў правінцыі Рызе.



15 красавіка 2016 года на «Мінск-арэне» запланаваны выступ вядомага аўстралійскага хрысціянскага прапаведніка сербскага паходжання Ніка Вуйчыча з праграмай «Жыццё без межаў». Ён бязрукі-бязногі, але жыве, працуе, шчасліва ажаніўся.



## Анекдоты і жарты

* * *

Заварыў кітайскі чай... Сяджу, атрымліваю асалоду... У галаву прыходзяць думкі старажытных кітайскіх мудрацоў... Шкада, па-кітайску нічога не разумею.

* * *

У жніўні тэмпература паветра ў Беларусі дасягала ўзроўню, аптымальнага для чалавечага арганізма — + 36,6.

* * *

Выйшаў на працу пасля адпачынку, адчуваю сябе як дзеці ў садку — хочацца плакаць і дадому!

* * *

У маёй жонкі ідэальны слых — яна нават чуе, калі на маю картку прыходзяць грошы!

* * *

– Бармэн, паўтары!
– Паўтараю: у пазыку не наліваем.

* * *

Сядзяць мужык і кот.
– Эх, — кажа мужык, — жонка мая ўчора адразу тройню нарадзіла.
– Не хвалюйся, — адказвае кот, — раздасі.

* * *

У момант, калі табе патрэбна падтрымка, ты звычайна аказваешся нікому не патрэбны. Гэта няпраўда! Насамрэч ты пастаянна нікому не патрэбны. Проста заўважаеш гэта толькі тады, калі табе патрабуе цца падтрымка.

* * *

Паглядзеў на сайце Расспажыўнагляду спіс шкодных прадуктаў. Гэта што ж выходзіць, мяне мама ў дзяцінстве забіць хацела?

## «НН» сто гадоў з вамі

***

Як Базыль у паходзе канаў,
Усё старонку сваю спамінаў.
– Вы прашчайце, прашчайце, шнуры,
Вы прашчайце, негараныя!
Мне вас болі ужо не гараць,
Буйным збожжам на зары не засяваць.

**Максім Багдановіч**

**«НН». №31. 1915.**

**У КДБ за LLL-мульты.** Затрыманы аўтар мультфільмаў пра Лукашэнку. «На аўторак выклікаў тэлемайстра, раніцай — званок у дзверы. «Хто?» — пытаю. «Тэлемайстар!» — у адказ. У кватэру зайшлі прадстаўнікі КДБ, паказаўшы пасведчанні, адразу з панятымі. А ў мяне на экране манітора якраз сцэна з новай серыі «Мульт-клуба», так што адпірацца не выпадала», — расказвае адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе стваральнік палітычных LLL-мультоў Віктар Базукевіч.

**«НН». №31. 2005.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 18.08.2015.
Замова №3165.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614

